Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
## Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 52 (4903) 30 снежня 2016 г.



# Яркіх сустрэч, цёплых імгненняў!



### Навагодні тост

*Я прапаную тост за Час!*
*Давайце ўзнімем чашы*
*за Час, працуе што на нас,*
*на спадзяванні нашы.*
*Я прапаную тост за Час! —*
*за Час, працуе што на нас*
*настойліва, сумленна,*
*нястомна і нязменна!*
*Парою здаца нам магло,*
*што Час — ён безудзельны:*
*не за дабро і не за зло,*
*што Час — ён ненадзейны.*
*Мы памыляліся тады.*
*Бываюць дні без шчасця,*
*Бясчэсця сумныя гады, —*
*то паласа бясчасся.*
*А Час прыходзіць — як зара,*
*як свежы подых ветра,*
*і адступае хваля зла,*
*і робіцца зноў светла...*

Анатоль Вярцінскі

*Фота Анатоля Дрыбаса.*

*Мінская ратуша.*

ГОД КУЛЬТУРЫ 2016

## Пункцірам

✔ Наша дзяржава высока цэніць шматгадовую карпатлівую працу і высокія дасягненні ў любой галіне і сферы дзейнасці, падкрэсліў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас цырымоніі ўручэння дзяржаўных узнагарод у Палацы Незалежнасці. Ордэнаў і ганаровых званняў удастоены 25 чалавек за шматгадовую плённую работу, узорнае выкананне службовых абавязкаў, дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў. За значны ўклад у рэалізацыю духоўна-асветных і сацыяльных праектаў, захаванне і ўзвядзенне праваслаўных храмаў на беларускай зямлі ордэнам Францыска Скарыны кіраўнік дзяржавы ўзнагародзіў і Настассю Асіціс, прэзідэнта расійскага Дабрачыннага фонду святых роўнаапостальных Канстанціна і Алены.

✔ Прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў па даручэнні Прэзідэнта Беларусі ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды заслужаным грамадзянам краіны. У спісе ўзнагароджаных амаль 140 чалавек, у ліку якіх і прадстаўнікі сферы культуры. Прэм'ер-міністр нагадаў, што сёлета адбылося нямала важных для сферы культуры падзей: 2016 год быў аб'яўлены Годам культуры, у краіне прыняты першы ў свеце Кодэкс аб культуры і Дзяржаўная праграма «Культура Беларусі» на 2016 — 2020 гады. Упершыню рэалізаваны сацыяльна значныя акцыі і культурныя мерапрыемствы, якія атрымалі шырокі рэзананс на міжнародным узроўні. Зроблены пэўныя крокі па стымуляванні творчай ініцыятывы работнікаў галіны, стварэнні дадатковых умоў для іх самарэалізацыі і прафесійнага росту, падкрэсліў Андрэй Кабякоў.

✔ Урад Беларусі зацвердзіў пералік друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, рэдакцыям якіх у 2017 годзе будзе аказана падтрымка з рэспубліканскага бюджэту. У пералік уключаны 26 выданняў, у ліку якіх — штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», а таксама іншыя газеты і часопісы Выдавецкага дома «Звязда».

✔ Тры дабрачынныя святы для дзяцей-сірот, хлопчыкаў і дзяўчынак са шматдзетных сем'яў, выдатнікаў, удзельнікаў мастацкіх калектываў з Мінска і сталічнай вобласці зладзілі ў Нацыянальным выставачным цэнтры «БелЭкспа». Зала прыёмаў адміністрацыйнага комплексу, дзе звычайна праводзяцца мерапрыемствы з удзелам высокіх службовых асоб і лепшых людзей краіны, з 25 снежня па 7 студзеня аддадзена ў распараджэнне дзяцей, адзначыла першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірыны Дрыга. Арганізатарамі мерапрыемстваў, якія ладзяцца ў гэты перыяд у межах рэспубліканскай акцыі «Нашы дзеці», выступілі Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта, Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Мінгарвыканкам, Мінаблвыканкам, Маладзёжны тэатр эстрады, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтва.

✔ У краіне мяркуецца выдаць серыю кніг пра беларускую дыяспару, паведамілі ў Міністэрстве інфармацыі Беларусі. Конкурсная камісія, якая вызначала выканаўцаў аднаго з мерапрыемстваў падпраграмы «Беларусы ў свеце» дзяржаўнай праграмы «Культура Беларусі» на 2016 — 2020 гады, лепшай прызнала прапанову РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"». Установа выступіла ініцыятарам стварэння серыі «Адрасы Беларусі ў свеце. Расія. Украіна. Краіны Балтыі», прысвечанай беларускай дыяспары.

**ГОД, што сыходзіць, застанецца ў гісторыі як асаблівы — з-за сутнасці, якая дала яму вызначэнне. У гэтым нумары мы ўзгадаем самыя яркія яго падзеі. Але тыя, хто ствараюць культуру, працуюць плённа штогод...**

# За Годам год

**Якія тэндэнцыі ў развіцці галіны можна вылучыць ужо цяпер? Разабрацца ў гэтым дапамагае міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў:**



Фота Яўгена Пясецкага.

*Барыс Святлоў.*

### Ініцыятывы

— Можна казаць, што гэты год быў багаты на творчыя ідэі, але як і любы іншы год. Проста мы зірнулі на гэта больш пільна. З'явіліся і новыя формы культурнай дзейнасці. Наогул, мастацтва і культура заўсёды выконваюць дзве функцыі. Ёсць частка творчых работнікаў у сапраўдным сэнсе: яны ствараюць мастацкі прадукт пры дапамозе інтуіцыі, іншых складнікаў творчасці. Але большасць папулярызуюць сродкамі мастацтва і культуры тыя ідэі, якія напрацоўваюцца ў грамадстве.

Ва ўсіх кірунках і жанрах мастацтва мы атрымалі новыя творы, цікавыя ідэі ўвасобленыя ў адпаведнай форме. Але, з пункту гледжання дзейнасці галіны (якую ўвасабляе міністэрства), асноўная функцыя нашай працы заключалася ў тым, каб ствараць умовы для творчасці. Вялікім дасягненнем у гэтым кірунку было стварэнне Кодэкса аб культуры. Нарматыўная база, якую мы прывялі ў парадак, вельмі істотная для таго, каб нашы мастакі (у шырокім сэнсе слова) працавалі над новымі творамі.

### Эканамічны патэнцыял

— Паслугі ў сферы культуры і творы мастацтва можна разглядаць з пункту гледжання эканомікі як пэўны прадукт, які падпарадкоўваецца гандлёва-грашовым адносінам. Тут у нас яшчэ вялікі патэнцыял. Апошнім часам мы назіраем добрую тэндэнцыю: 20 — 25 працэнтаў пазабюджэтных сродкаў атрымліваем па ўстановах культуры (яны зарабляюць, але і зноў трацяць на далейшае развіццё).

У якасці ўзору я б назваў «Славянскі базар». Ён з кожным годам усё больш адыходзіць ад дзяржаўнай падтрымкі дзякуючы добраму менеджменту, наладжанай сістэме продажу квіткоў, рэкламе, прыцягненню спонсараў і г.д. «Славянскі базар» рухаецца ў бок самаакупнасці. Іншыя фестывалі таксама частку грошай зарабляюць самі.

Вельмі цікавая тэндэнцыя назіраецца ў музейнай сферы. Даволі вялікія грошы, што ўклала дзяржава і ў Нясвіж, і ў Мір, і ў Музей Вялікай Айчыннай вайны, пры добрай пастаноўцы справы пачынаюць прыносіць прыбытак калі не ў чыстым выглядзе, то вельмі павышаюць працэнт пазабюджэтных сродкаў. У некаторых музеях гэты паказчык даходзіць да 70 працэнтаў пры тым, што асобныя толькі на шляху да мадэрнізацыі ці рэстаўрацыі. Найперш маю на ўвазе Нацыянальны гістарычны музей, які адзначыў 60-годдзе, але вядзе актыўную дзейнасць: за апошні перыяд зрабілі каля 200 новых экспазіцый, якія пракаталі па Беларусі і ў 19 замежных краінах, усяго прыцягнулі каля 750 тысяч наведвальнікаў і адпаведныя пазабюджэтныя даходы. Яны маглі б быць большымі, калі б мы вырашылі пытанне стварэння на новым месцы музея, які б адпавядаў патрэбам нашага часу.

Але дзяржава павінна забяспечваць бюджэтную падтрымку тых кірункаў культуры, якім яна вельмі неабходная. Найперш гэта тое, што называецца «высокае мастацтва», і ўсё, што тычыцца адукацыі, мастацкага, эстэтычнага выхавання, падтрымкі маладых талентаў.

### Падушка бяспекі

— Што тычыцца тэатра: існуе магчымасць зарабляць і тут. Але ёсць папулярны складнік творчасці, а ёсць высокія акадэмічныя ўзоры мастацтва. Калі гаворка пра высокае мастацтва, то тут абавязковая бюджэтная падтрымка, а папулярны кірунак дае магчымасць зарабляць і нашым тэатральна-відовішчным арганізацыям. Працэнт можна павышаць, але ўсё роўна частка бюджэтнай падтрымкі тут павінна быць. Напрыклад, калі б мы перайшлі да падтрымкі тэатральна-відовішчных арганізацый і ўстаноў культуры са званнем «нацыянальны», а астатнія шукалі, як выжыць самім, то гэта быў бы добры стымул для іх імкнуцца ўверх і паказваць высокае мастацтва ў тым ліку. І была б глеба для падбору рэжысёраў і артыстаў, для пераводу іх у тыя калектывы, якія маюць высокі статус «нацыянальны» і бюджэтную падушку бяспекі для свайго існавання.

### Чаканне аддачы

— На сёння вельмі вялікія грошы выдаткоўваюцца на кіно. Яны ідуць па двух кірунках. Найперш падтрымка непасрэдна кінематографа, і тут гаворка не толькі пра кінастудыю «Беларусьфільм». У нас ёсць Указ прэзідэнта, які дае магчымасць у конкурсе на атрыманне дзяржаўнай падтрымкі ўдзельнічаць і «Беларусьфільму», і незалежным прыватным студыям. Другі кірунак у тым, каб кінастудыя «Беларусьфільм» развівалася як фабрыка, таму што рэканструкцыя, якая ідзе цяпер, — гэта істотная дзяржаўная падтрымка. У парадак прыводзяцца не толькі сцены, але закупаецца адпаведнае абсталяванне: гукавое, светлавое, здымачная тэхніка. Пытанне ў тым, што пакуль кінастудыя і яе кіраўніцтва ніяк не могуць належным чынам арганізаваць гэтую працу. Чаго не хапае? Не хапае абаротных сродкаў для таго, каб удзельнічаць у вытворчасці фільмаў, у тым ліку і самім. Не хапае досведу прыцягнення для праектаў партнёраў. Не хапае шмат таго, што называецца суб'ектыўным фактарам. Таму што на сёння на кінастудыі ёсць усё, каб рабіць кіно.

Для вытворчасці кіно не хапае, напэўна, яшчэ і ідэй, сцэнарыяў. І не хапае высілкаў з боку кінастудыі, каб рэалізоўваць прадукцыю, якая ўжо зробленая. Пытанне не стаіць: абавязкова дагнаць ці перагнаць па вытворчасці кіно вядомыя цэнтры, дзе ўкладваюцца вялікія грошы, каб атрымаць большы прыбытак. З гэтага пункту гледжання ўсё наша кіно (нават створанае за савецкім часам) можна разглядаць як малабюджэтнае. Але сіла нашага кіно можа быць у змястоўным боку.

### Чаканне адкрыцця

— З творамі літаратараў стараюся знаёміцца праз прызму ў тым ліку і прафесійнага інтарэсу: што можна было б выкарыстаць у тым жа кіно пры крызісе творчых ідэй. Сачу за навінкамі, чытаю і тоўстыя часопісы (з'яўляюся членам рэдкалегіі «Маладосці»). Але пакуль вялікага адкрыцця не здарылася.

### Творчае і жыццёвае

— Ад творчага саюза, у тым ліку ад Саюза мастакоў, я чакаю твораў самага высокага мастацкага ўзроўню. І яшчэ Саюз як грамадская арганізацыя мастакоў павінен ажыццяўляць мастацкую цэнзуру. Я гэтае слова ўжываю ў творчым сэнсе, маю на ўвазе крытыку, якая дапамагае трымаць высокую планку і ацэньваць любыя творы мастацтва. А за міністэрствам застаецца сістэма матэрыяльнага забеспячэння дзейнасці мастакоў. За савецкім часам у нас была сістэма майстэрняў, спецыяльна пабудаваны дом з творчымі майстэрнямі. Акрамя таго, сістэма майстэрняў існуе ў горадзе, у жылых памяшканнях. Асноўнае пытанне наконт майстэрняў узнікае не ў маладых мастакоў, а ў сталых, якія не заўсёды маюць магчымасць уключацца ў рынкавыя адносіны, каб праз продаж сваіх твораў забяспечваць аплату за майстэрні. Мы спрыялі ў вырашэнні пытання, каб знізіць узровень аплаты камунальных паслуг за майстэрні мастакоў: гэта будзе магчыма, калі ў наступным годзе ўступіць у сілу Кодэкс аб культуры. Між іншым маладыя мастакі разумеюць новыя эканамічныя ўмовы і правілы гульні: прадаюць работы, купляюць асобныя кватэры, у якіх арганізуюць майстэрні. Яны не чакаюць міласці ад дзяржавы, а ствараюць сабе магчымасці самі.

### Дзеля эмоцый

— Я хаджу на выстаўкі двойчы: першы раз, калі гэта неабходна па працы, а потым ужо ў выхадныя дні, каб спакойна паглядзець: звяртаеш увагу на тыя ці іншыя творы мастацтва, атрымліваеш эстэтычнае наталенне. Творамі мастацтва сёння працэй наталяцца ў музеях і рабіць усё для таго, каб работы нашых сучасных мастакоў не сыходзілі за мяжу. У нас ёсць сістэма дзяржаўных закупаў: музеі даюць заяўкі ў Міністэрства культуры, якое па магчымасці набывае ў мастакоў творы для музеяў. За апошнія 2014 — 2015 гады сума штогадовых закупаў па заяўках музеяў з рэспубліканскага бюджэту перасягнула 3 мільярды беларускіх рублёў. Таксама рэгіянальныя музеі робяць закупы за кошт мясцовых бюджэтаў (агульная сума складае недзе мільярд-паўтара беларускіх рублёў).

З апошніх моцных уражанняў — выстаўка ў Нацыянальным мастацкім музеі са збораў прыватнага калекцыянера Валадчынскага. Выстаўка мяне ўразіла: шмат рэчаў, звязаных з імёнамі вядомых мастакоў. Прадстаўляліся не хрэстаматыйныя творы, якія адкрывалі вядомае ў невядомым — яшчэ адну гронку іх творчасці.

### Пазнаёміцца з іншымі

— Здзіўленне ў Год культуры: нягледзячы на тое, што мы ажыццяўляем міжнародную культурную дзейнасць (ёсць план, куды выехаць і каго прыняць на днях культуры), але пасольствы замежных дзяржаў, акрэдытаваных у Беларусі, выходзілі са сваімі ініцыятывамі. Пад канец года ў нас адбыўся Аўстрыйскі сезон. Прайшлі перамовы з італьянскім пасольствам, і налета мы ўжо распрацоўваем сумесныя праекты. На ўзроўні дарадцы прэзідэнта Сербіі па пытаннях культуры мы абмеркавалі перспектывы супрацоўніцтва. Хочуць з намі падтрымліваць стасункі прадстаўнікі такога рэгіёна Расіі, як Удмурцыя.

### Паказаць сябе

— Вялікае здзіўленне было ў тым, колькі юбілеяў і знакавых дат у нас выпала на Год культуры. Зоркі сышліся, што называецца… Дзякуючы гэтаму кожны дзень маглі ладзіць свята, што фактычна і было. З'явіліся новыя ініцыятывы, нават на мясцовым узроўні: ці не кожны раён сёлета захацеў зрабіць свой непаўторны фестываль. Амбіцый было шмат — толькі арганізавалі фестываль, але ўжо хочуць атрымаць статус міжнароднага. Каштоўнае тое, што людзі вырашылі паказаць сябе з самага лепшага боку. На мой погляд, галоўны здабытак Года культуры — што ён абудзіў творчы дух па ўсёй краіне.

**Ларыса ЦІМОШЫК**



**Святлана Баранок, першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага аблвыканкама (пытанні культуры):**

— Для Мінскай вобласці 2016-ты быў багаты на падзеі. Ды і як інакш, калі культурнай сталіцай Беларусі 2016 года абралі адзін з нашых райцэнтраў — горад Маладзечна? Акрамя ўрачыстых цырымоній, прысвечаных прысваенню гораду ганаровага статусу, у межах Года культуры прайшло мноства цікавых мерапрыемстваў. На тэрыторыі вобласці ўпершыню зладзілі Фестываль шансону, дзе ўзялі ўдзел расійскія зоркі. Маштабна і ўражліва адзначылі XXVI Абласны фестываль духавой музыкі «Майскі вальс»: на традыцыйнае мерапрыемства ў Маладзечна з'ехаліся каля 1000 удзельнікаў з усіх абласцей Беларусі, а таксама госці з Польшчы, Прыбалтыкі, Расіі, Украіны. Тэматыку Года культуры задзейнічалі і падчас пленэру каменных скульптур (скульптуры, створаныя на пленэры, зараз упрыгожваюць сквер у Маладзечне). Адкрылі новыя культурныя аб'екты: помнік Анастасіі Слуцкай у горадзе Слуцку і скульптурную кампазіцыю «Божая Маці Лагойская» ў Лагойску. На Брылёўскім полі прайшла рэканструкцыя падзей вайны 1812 года. Звычайна мы ладзім яе адзін раз на 5 гадоў (трымаемся юбілейных дат), але ў гэтым, неюбілейным, годзе зрабілі выключэнне. Наведвальнікам імпрэзы было на што паглядзець: у масавай рэканструкцыі ўдзел узялі 450 уніфармістаў і больш за 100 коннікаў.

Значнай падзеяй Года культуры стала з'яўленне кнігі-падарунка «Рукою майстра» на рускай і англійскай мовах. Над выданнем прыгожага фаліянта працавалі мастакі з усёй Мінскай вобласці.



**Сяргей Панасюк, намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага аблвыканкама, начальнік упраўлення культуры:**

— У мінулым годзе горад Брэст атрымаў ганаровае званне культурнай сталіцы Беларусі, і колькасць мерапрыемстваў па ўсёй вобласці значна ўзрасла. Яны ладзіліся на высокім арганізацыйным і творчым узроўні, таму абвяшчэнне Года культуры не стала для нас нечаканасцю: мы працягвалі прытрымлівацца ўжо распрацаванай і праверанай стратэгіі. Паспяхова прайшлі традыцыйныя для Брэсцкай вобласці фестываль класічнай музыкі «Студзеньскія музычныя вечары — 2016», Міжнародны тэатральны фестываль «Белая вежа». 22 чэрвеня ў Брэст з'ехаліся прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана, Германіі, Аўстрыі і іншых дзяржаў, каб прысутнічаць на мітынгу памяці, які пачынаецца а чацвёртай гадзіне раніцы, у час, калі гітлераўская Германія атакавала Савецкі Саюз. Пасля мітынгу прайшла гістарычная рэканструкцыя, якая ўжо паспела набыць вялікую папулярнасць на прасторах СНД. Дзеля ўдзелу ў ваенных баталіях на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці да нас едуць рэканструктары з многіх краін свету.

Як заўсёды, цікава прайшлі «Дажынкі» — сёлета ў Драгічыне. І прыцягнулі шмат жыхароў вобласці: акрамя артыстаў і работнікаў культуры, у «Дажынках» узялі ўдзел работнікі гандлю, будаўнікі, што абнаўлялі гарады, і ўсе спадарожныя службы.

На мой погляд, адной з самых вялікіх падзей сыходнага года стала адкрыццё Бярозаўскага Палаца культуры. Задача была складаная: не рэканструкцыя, не рамонт, а неабходнасць зрабіць будынак з нуля. Усё атрымалася: у канцы лістапада ўзвялі сапраўдны палац — яркі, прыгожы, залаты, з сучасным гукавым і светлавым абсталяваннем, сучаснай мэбляй і вялікай колькасцю класаў.



**Ларыса Аленская, намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама:**

— Візітная картка культурнага жыцця Віцебшчыны — папулярны Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Арганізацыя фестывалю — на высокім узроўні: ярка, маштабна, мноства цікавых мерапрыемстваў. «Славянскаму базару» спадарожнічалі агляд конкурсу духавых аркестраў, урачыстае шэсце ўдзельнікаў і гасцей фестывалю з узняццем сцяга «Славянскага базару», святкаванне Дня моладзі ды шмат іншага. Запамінальным стала адкрыццё пасля рэканструкцыі мемарыяльнага комплексу «Прарыў» ва Ушачах 9 мая: на Дзень Перамогі ва Ушачы з'ехаліся дэлегацыі з розных гарадоў і раёнаў вобласці.

У межах Года культуры зладзілі гала-канцэрт, падчас якога прайшоў конкурс творчых калектываў і выканаўцаў Віцебскай вобласці. Пляцоўкамі для міжнародных фестываляў сталі Браслаў, Паставы, Дуброўна. Абласны фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі «Дажынкі» сёлета зладзілі ў горадзе Сянно. Шмат гасцей было ў Верхнядзвінскім раёне — Курган дружбы штогод збірае людзей, каб ушанаваць памяць партызанаў Беларусі, Расіі і Латвіі.

Дарэчы, на Год культуры ў Віцебскай вобласці прыпала шмат юбілеяў. Урачыстыя мерапрыемствы прайшлі з нагоды 90-годдзя Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, 30-годдзя Беларускага тэатра «Лялька», 25-годдзя Музея Марка Шагала, 50-годдзя Віцебскага абласнога музея Героя Савецкага Саюза Міная Філіпавіча Шмырова, 90-годдзя краязнаўчага музея ў Полацку. Год культуры таксама запомніцца жыхарам нашай вобласці адкрыццём Музея гісторыі прыватнага калекцыянавання ў Віцебску і культурна-аздараўленчага комплексу ў Лёзна.



**Андрэй Кунцэвіч, начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама:**

— У межах Года культуры па ўсёй Магілёўскай вобласці прайшло шмат цікавых мерапрыемстваў і праектаў. Гэта і рэспубліканскае свята «Купалле» («Александрыя збірае сяброў»), якое ў гэтым годзе наведала 110 тысяч чалавек, і міжнародны пленэр жывапісу «Вобраз радзімы ў выяўленчым мастацтве», і моладзевы тэатральны форум «Март-контакт». Мабыць, адзін з самых выбітных фестывальных праектаў года на Магілёўшчыне — гэта III Нацыянальны форум «Музеі Беларусі». Да нас прыехалі прадстаўнікі больш за 100 музеяў з усіх куткоў Беларусі. Праца на тэматычных пляцоўках форуму была карысная не толькі спецыялістам, але і ўсім аматарам культуры і мастацтва. Ганаровым старшынёй форуму «Музеі Беларусі» стала генеральны дырэктар Траццякоўскай галерэі Зельфіра Трэгулава.

Яшчэ адзін творчы праект, які быў рэалізаваны праз Год культуры, — выданне кнігі-фотаальбома «Спірыдон Собаль і вытокі магілёўскага кнігадруку». Кніга ўнікальная, бо гэта першая спроба сабраць разам багатую кніжную спадчыну Спірыдона Собаля і яго паслядоўнікаў — друкароў XVII — XVIII стагоддзяў.

Дзякуючы «Фестывалю народных талентаў Магілёўшчыны» свае творчыя прэзентацыі на сцэне абласнога цэнтра прадставілі самадзейныя і прафесійныя артысты ўсіх раёнаў Магілёўскай вобласці. Заключным акордам гэтага праекта і Года культуры стаў фінальны канцэрт пад назвай «З любоўю да цябе, Беларусь», які прайшоў на самай буйной пляцоўцы нашага горада — Палацы культуры Магілёўскай вобласці.



**Алена Клімовіч, першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама:**

— Значнай падзеяй у Гродзенскай вобласці стаў Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур, які ладзіцца ў Гродне раз на два гады. Сёлета ён праходзіў у новым фармаце і атрымаў высокую адзнаку нават ад кіраўніцтва дзяржавы.

У Год культуры мы вырашылі аб'яднаць усе аб'екты нематэрыяльнай культурнай спадчыны Гродзеншчыны, занесеныя ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, у адзін праект праз шэраг тэматычных мерапрыемстваў. На працягу года ўвага пераходзіла з аднаго аб'екта на іншы. У межах праекта прайшло новае для нас Свята пісанкі — традыцыйнага роспісу велікодных яек у гарадскім пасёлку Сапоцкін. На велікодным кірмашы ў Гродне пазнаёміліся з навагрудскай выцінанкай-выбіванкай і ўнікальнай традыцыяй вырабу велікодных вербаў. Гудзевіцкі фэст у Мастоўскім раёне нагадаў пра тэхналогіі ткацтва падвойных дываноў. На фэсце арганізоўвалі майстар-класы па ткацтве, гульні і танцы з выкарыстаннем у праграме мясцовага танцавальнага стылю «Котчынская кадрыля». Мерапрыемствы ў аграгарадку Адэльск звярнулі ўвагу на творчасць майстра па вырабу драўляных народных музычных інструментаў Мар'яна Скрамблевіча. У тым жа аграгарадку нашы работнікі разам з жыхарамі мястэчка аднавілі традыцыі Адэльскай рэгіянальнай кухні, што захоўвае народныя рэцэпты пасядзённых і святочных страў.

Мерапрыемствы, прымеркаваныя да Года культуры, асвятлялі ў прэсе і на тэлебачанні: зараз ёсць патрэба не толькі захоўваць, але і папулярызаваць культуру краіны.



**Ірына Даўгала, начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гомельскага аблвыканкама:**

— Мабыць, самая яркая і запамінальная падзея ў адыходзячым годзе для ўсіх нашых жыхароў — «Дзень беларускага пісьменства» ў Рагачове. Цудоўным падарункам стаў Дом кнігі — унікальны комплекс, дзе пад адным дахам аб'ядналі і кніжную краму, і бібліятэку, і канферэнц-залу, абсталяваную па апошнім слове тэхнікі. Падрыхтоўка да свята ішла на працягу цэлага года, і ў выніку 4 верасня абноўлены горад прымаў больш за 10 тысяч гасцей з 20 краін свету.

Адной з «разынак» свята сталі кнігі ручной работы: арыгінальна аформленыя творы класікаў беларускай літаратуры і ўраджэнцаў Рагачоўскай зямлі, аўтарскія і дзіцячыя кнігі, выкананыя ў розных тэхніках з выкарыстаннем незвычайных матэрыялаў. Працавалі літаратурныя падворкі: «Літаратурны салон пані Яноўскай» па творчасці У. Караткевіча, выстаўка краязнаўчай літаратуры «Жывая памяць Рагачоўшчыны», фотапраект «Кніжныя людзі», тэатральная пляцоўка народнага аматарскага тэатра «Гракі», «Кніжная майстэрня»... На мерапрыемстве была багата прадстаўлена і літаратурная праца раёнаў: цэлая алея тантамарэсак «Беларусы і 8 цудаў свету» Калінкавіцкага раёна, казка народнага лялечнага тэатра «Батлейка» Брагінскай цэнтральнай раённай бібліятэкі, героі «Людзей на балоце» ад Хойнікаў ды шмат чаго іншага. Падрыхтавалі ўнікальныя інтэрактыўныя выставачныя стэнды і гомельскія рэгіянальныя выданні. У выніку госці «Дня беларускага пісьменства» не толькі пазнаёміліся з творчым патэнцыялам Гомельшчыны, але і адчулі сапраўдны каларыт свята.

## Дайджэст

• Беларуская музыка патрапіла ў нямецкі «Музычны калядны каляндар *GFPS*», які выпускае Супольнасць студэнцкіх абменаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Каляндар прэзентуе музычнае відэа, кампазіцыі для якога адбіраюцца так, каб праз найбольш характэрныя прыклады музычнага мастацтва адлюстроўваць артыстычнае развіццё краіны. Змяшчаюцца і кароткія звесткі пра гурты. Асноўныя мовы такіх прэзентацый — нямецкая і англійская. Прыкладам, «Тройца» характарызуецца як уводзіны «ў меланхалічны свет беларускай народнай музыкі», «Серебряная свадьба» — як вясёлая мяшанка з французскага шансону, дыксілэнду, кантры, рускай народнай музыкі і лацінаамерыканскіх рытмаў, а штодзённасць і таварыскасць беларускай правінцыі адлюстраваныя ў кліпах «Рэха».

• Раман «Голад» нобелеўскага лаўрэата Кнута Гамсуна выйдзе па-беларуску. Выданне стане першым у «Нобелеўскай серыі», задуманай дабрачынным фондам «Вяртанне», выдавецтвам «Янушкевіч» і сайтам электронных кніг *Kniharnia.by*. Акром названага рамана, у том увойдуць творы «Пан», «Вікторыя» і нобелеўская прамова лаўрэата. Праект ажыццяўляецца праз добраахвотныя ахвяраванні на платформе *Talaka.by*. У рамане пісьменнік тонка раскрывае тэму нішчымніцы. Манера пісьма нарвежца, яго псіхалагізм прывабілі чытачоў, і «Голад» адразу ж пачаў перакладацца на замежныя мовы. Калі ў 1920 годзе Гамсун стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры, ён ужо быў папулярны ў Еўропе. Гэта надзвычай рэдкі выпадак, калі пісьменнік атрымаў Нобелеўку не з агульнай фармулёўкай, а за канкрэтны твор.

• Завяршэннем Года культуры для Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры стала падарожжа на радзіму Кузьмы Чорнага, у вёску Цімкавічы Капыльскага раёна. З 1964 года тут працуе музей пісьменніка. Два гады таму экспазіцыя яго была абноўленая. З'явіліся новыя аўтографы, часопіс «Зоркі» з першым апублікаваным апавяданнем Чорнага «Гузік» (праблема мовы ў школьным навучанні, якую ўздымае пісьменнік, і сёння актуальная) ды іншыя каштоўныя экспанаты, а інтэр'ер музея дапоўнілі банеры з малюнкамі, якія зрабіў у час Вялікай Айчыннай вайны Кузьма Чорны. Графіка пісьменніка мае значэнне не толькі як сведчанне, што таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім, — гэтыя творы гарманічна спалучаюцца з духам экспазіцыі ды прозай Чорнага ўвогуле.

**СТУДЗЕНЬ як пачатак? Менавіта так і варта разглядаць гэты месяц! Год — новы. Планы — грандыёзныя. Мары — смелыя… Так і хочацца стварыць штосьці годнае! Ці не пачаць з апавядання? Тады з такога, дзе ўсё — навагодняе ды жартоўнае, калляднае ды светлае… Вось такая проза. Чытаем!**



Андрэй СІДАРЭЙКА

# Нечаканыя візіцёры

Блізіўся Новы год. Сямігадовая дачка Ксюша чакала казачных герояў. За сняданкам я паведаміў, што сёння яе наведаюць любімы Дзед Мароз і яго ўнучка Снягурка. Ад радасці Ксюша папрасіла дабаўкі, а пасля пачала рыхтавацца да сустрэчы з гасцямі.

У дзверы патэлефанавалі нечакана (казачных персанажаў чакалі пазней). Дачка выбегла з пакоя. На парозе стаяў Дзед Мароз. Было відаць, што да гэтага ён павіншаваў шмат дзяцей, а добразычлівыя бацькі ўсюды прапаноўвалі тост за надыходзячы.

Без цырымоній госць прайшоў у кватэру і сеў на канапу. На Ксюшу ўвагі не звяртаў.

Дзяўчынка запыталася сама:

— Дзядуля Мароз, дзе твая ўнучка?

— Яе выкраў Бабай і павёз у сваё царства — бо позна клалася спаць, — прамовіў нечаканы чаканы візіцёр.

— А падарункі? — здзіўлена спытала дзяўчынка.

— І падарункі. Ледзь сам ногі панёс, — засынаючы, сказаў дзядуля.

«Што гэта? Розыгрыш?» — падумаў я і ўпотай ад дачкі набраў нумар тэлефона. На іншым канцы провада паведамілі, што да дадзенага інцыдэнту дачыннення не маюць.

— Тата, а навошта Бабаю Снягурка? — запыталася Ксюша.

— Напэўна, ён вырашыў з ёй ажаніцца, — паспрабаваў пажартаваць я, але такі адказ толькі засмуціў дзяўчынку.

— Дык яе трэба хутчэй вызваліць! А Дзядулю Марозу сабраць новыя сюрпрызы для хлопчыкаў і дзяўчынак. У мяне столькі цацак! Я яму дапамагу. А ты пачытай у «Вікіпедыі», як змагацца з Бабаем. Гэта, мабыць, ад яго чар дзядуля так моцна заснуў!

— Добра, — паабяцаў я.

На самай справе ў «Вікіпедыю» глядзець не збіраўся. Зразумела: «залётны» Дзед Мароз праспіцца гадзіну-другую і як агурочак пойдзе дадому. Снягурка, мабыць, паехала на таксі. А ўсё ж было адно «але»: Дзядулю Марозу трэба было дапамагчы да прыходу жонкі. А то яна магла тады так «дапамагчы», што на ўвесь год запомніцца!

Між тым Ксюша збірала новыя падарункі для Дзеда Мароза. Пачуцця альтруізму — не займаць. Сам жа дзядуля соп на канапе. Раз-пораз дачка выбягала з пакоя і пыталася, ці падыдзе такая цацка госцю.

Уся гэтая гісторыя насцярожвала. Час ад часу я глядзеў на гадзіннік. Да прыходу сапраўдных казачных герояў з фірмы «Казка» заставалася зусім няшмат. І наўрад ці да гэтага часу «чужы» Дзед Мароз сыдзе з кватэры. Трэба было думаць, як выйсці са становішча.

Раптам пачуўся новы званок. «А гэта яшчэ хто?» — падумаў я.

На парозе стаяў юнак у казачным чырвоным кажуху.

— Вы хто? Для якога ранішніка? Хто вас зваў? — здзіўлена спытаў я.

— Я? — вінавата перапытаў нечаканы госць. — Я — Іван-царэвіч. А можа, Іван-дурань. Я дакладна не ведаю. Мне сказалі, што тут знаходзіцца трыдзясятае царства. Ва ўсякім выпадку, мой тэлефонны навігатар прывёў менавіта сюды.

«Час псіхіятрычную выклікаць», — пранеслася ў галаве.

Збіраўся зачыніць дзверы перад незнаёмцам, але да нашай гутаркі далучылася Ксюша:

— Дык вы Іван-царэвіч або Іван-дурань?

— Подзвігу я пакуль не здзейсніў, значыць, пакуль Іван-дурань, — сумна сказаў незнаёмец.

— Дык праходзьце! У нас знойдзецца справа для подзвігу. Якраз для вас.

Нечаканы госць зайшоў у кватэру.

— Бачыш, Іванка, — і Ксюша паказала на соннага Дзеда Мароза, — Бабай зачараваў дзядулю, а ўнучку з падарункамі выкраў. Трэба яе вызваліць.

— Ну гэта ж Снягурка, а не Алена Прамудрая. Не тая казка, — пацiснуў плячыма Іван.

— А якая розніца? Подзвіг аднолькава каштоўны. Глядзі, спадабаецеся адно аднаму і будзеце жыць-пажываць ды дабра нажываць.

— Дык дзе гэты Бабай жыве?

— А ты настрой свой навігатар і ідзі, — прапанавала Ксюша.

— Заданне зразумеў. — І Іван-дурань пайшоў.

У мяне як гара з плеч. «Вось калі б яшчэ з Марозам разабрацца...» — падумаў я.

Між тым дзядуля паволі ачомаўся. Я ўпотай завёў яго на кухню, даў вады. Той папрасіў прабачэння за нечаканы візіт. Ціха, каб не пачула дачка, правёў яго да дзвярэй.

Як толькі нечаканы госць пакінуў дом, з пакоя выйшла Ксюша з поўным пакетам цацак:

— А дзе Дзед Мароз?

— Яму патэлефанаваў Іван-дурань, сказаў, што патрэбна дапамога. Ён унучку знайшоў.

— Праўда?! — узрадавалася Ксюша. — Я ж казала, што ён здольны!

У гэты час у дзверы патэлефанавалі. У які раз пайшоў адчыняць. На парозе стаялі доўгачаканыя Дзед Мароз і Снягурка з фірмы «Казка».

— З Новым годам! — сказалі госці.

— З Новым годам! — павіталіся і мы.





Ксенія ШТАЛЕНКОВА

# ЛЁСАВЫЗНАЧАЛЬНАЯ ЯЛІНКА

*З нізкі «7 апавяданняў на 7 калядных вечароў»*

Тані было вельмі моташна. А пасля жыццярадасных расповедаў Кацькі ў скайпе пра яе Уладзіка і дзве неда-ялінкі — асабліва.

Сёння выхадны. Каляды прайшлі няўдала, праз тры дні Новы год. У Тані ўжо пяць месяцаў і два з паловай тыдні як разбітае сэрца і ніякага шчасця ў жыцці. На вуліцы выпаў снег, але і ад яго радасці няма.

Тані не хацелася брацца за працу, якую яна не паспела выканаць за мінулыя дні, бо для гэтага трэ было зноў уключаць камп'ютар, а там пільнуе Каця са сваімі размовамі. Не хацелася ёй і лайдачыць, бо цікавай кніжкі пад рукою няма, фільмы ўсе па сто разоў пераглядана, а проста ляжаць на канапе і нічога не рабіць яна не ўмее.

Не ведаючы, як быць і адкуль узяць добры настрой, Таня вырашыла заплесці касу. Тоўстая русая каса яе не раздражняла, а нават нагадвала пра ўласную годнасць. Але каму гэтая годнасць патрэбная? Таня цяжка ўздыхнула.

Раптам забомкаў тэлефон. Цёця.

— Танюшык, прывітанкі! Слухай, тут нешта Патрыку блага, баюся яго аднаго пакідаць, не збегаеш да аптэкі?

— Так, збегаю, — задушаным голасам пагадзілася Таня, тым больш што бегчы было праз дарогу і назад (цёця жыла ў суседнім пад'ездзе).

— А ты што без настрою?

— Ды не, цёця, табе падалося.

Таня хуценька збегала па лекі для Патрыка, што заўжды маяўся жыватом, як аб'есца якой-небудзь дрэні. Яе вельмі раздражняла, што ката завуць Патрыкам (для гэтага ненажэры і звычайнага Мурзіка хапіла б), але яна ўсё роўна збегала.

Выйдучы з цётчынага пад'езда, Таня трохі памарудзіла і вырашыла прагуляцца да Батанічнага саду, бо вяртацца ў агідную кватэру ёй зусім не хацелася. Тым больш што ісці тут амаль няма чаго, а добры шпацыр не перашкодзіць.

Яна падышла да будачкі, каб набыць квіток. Кабеціна, што сядзела ўнутры, зірнула на яе бы на вар'ятку, а потым махнула рукой, прапускаючы Таню без квітка.

Яна бадзялася без мэты па самотных алейках, пакуль раптоўна не выйшла да вялізных блакітных елак. Тут Таня прыгадала, што яшчэ не паспела падрыхтавацца да святаў сваю ялінку. Яна зладзеявата азірнулася па баках, падцягнула шалік да самых вачэй і накіравалася да елак. Ухапілася за адну з галінак, што папульхней, і рашуча шчоўкнула.

— Ага! Хапай злачынца! — пачула яна вясёлыя маладыя галасы і павярнулася.

З ніадкуль выраслі два расчырванелыя міліцыянеры, што падхапілі Таню пад пахі і павалаклі ў пастарунак. Там яны адабралі ў яе яловую галінку, назваўшы доказам злачынства, і пасадзілі дзяўчыну за краты, пакінуўшы яе ў паўнюткай цемры адну.

Таня ціха заплакала. Што ні рабі, усё адно нічога добрага ў яе не атрымліваецца. Ёй зрабілася горача, і яна распранулася, паклаўшы куртку і шалік з шапкай на лаву побач. Зноўку пачуліся галасы, мабыць, хтосьці ішоў па яе?

— А чаго вы гірлянду не ўключаеце? — Паміж кратаў яна ўбачыла, як малады высокі хлопец у міліцэйскай форме ўторкнуў у разетку лямпачкі, і на яго стале замігцела рознакаляровымі агеньчыкамі маленькая штучная ялінка.

— Дык а чаго дарма святло паліць, таварыш лейтэнант! — развёў рукамі дзяжурны. — Тут цётку злавілі, блакітныя елкі ў Батанічным садзе псавала...

— Гэта я цётка?! — ледзяным тонам усклікнула Таня, склаўшы рукі на грудзях.

Таварыш лейтэнант павярнуўся на яе голас і ажно замёр. З-за кратаў на яго пагладала нясцерпна прыгожае вірлавокае Дзіва з перакінутай праз плячо доўгай касой, што залацілася на белым швэдры. Ён падышоў да яе бліжэй і, узяўшыся за пруты, разгублена прамармытаў, расплываючыся ў дураслівай усмешцы:

— Снягурка. Сапраўдная.

Тані ён таксама падаўся даволі сімпатычным.





**Чым адметны ЛЮТЫ для літаратараў і аматараў літаратуры? Перш за ўсё, тым, што менавіта на гэты месяц прыпадае кніжная выстаўка-кірмаш. Падзея, якая прыкметна ажыўляе творцаў і творчасць. І традыцыйна робіць больш блізкімі пісьменніка ды чытача. Дарэчы, як і «ЛіМ»!..**

# КРОПКА НАТХНЕННЯ



Рэгіна РЭЎТОВІЧ

## Думкі

*Імклівa дні, гады ляцяць...*
*Няспынны час трывогі множыць.*
*І марам цяжка ўжо крыляць,*
*І толькі думак не стрыножыць.*

*Іх не стрымаць, не зацугляць,*
*Адно — чакаць, чакаць вяртання,*
*І ў лад іх выбраны трапляць,*
*І да пары трываць маўчанне.*

*А каб жыцця пазначыць шлях,*
*Я не адзін спісала сшытак.*
*Каму пакінуць свой пасаг —*
*Душы нястомнае набытак?*

*Папрок хапае за каўнер:*
*«Багацця дзецям не прыдбала?!»*
*Жыць сціпла — лёсу быў намер,*
*І мне ў жыцці ўсяго хапала.*

*І дзецям хопіць — веру я!*
*Я ім пакіну свет надзеі,*
*І весні пошчак салаўя,*
*І радасць знакавай падзеі.*

*Я ім пакіну дабрыню*
*І дам наказ: дарыць пяшчоту,*
*Любому радавацца дню,*
*Цурацца здрады і ляноты.*

*А расцугляных думак рой*
*Я адпускаю зноў на волю,*
*Каб добры ўсім дарыць настрой*
*І каб сваю пацешыць долю.*

## Пачаць нанова

*Я ведаю: не вернецца назад*
*Юнацкай закаханасці журынка,*
*І гэты развітальны снегапад,*
*І пачуццяў праменная іскрынка...*

*Усё сплыло, мінула, адышло...*
*Усё было да густу, даспадобы.*
*Адно не ведаю: ці возьме пад крыло*
*Анёл-ахоўнік? Я рабіла спробы*

*Дом збудаваць з пяшчоты і цяпла,*
*Душу абрала месцам забудовы,*
*Але ў тупік прымушаны зайшла,*
*Мне неабходна ўсё пачаць нанова.*

*Па кропельцы ўбіраю спеў вясны,*
*Нясу ў душы няўрымслівай сумленне,*
*Малітвамі ўтаймоўваючы сны,*
*Сцяжыначку шукаю да збавення.*

## Веру

*Пад калёсы шаша*
*Шэрай стужкай віецца...*
*Думку цешу: «Душа*
*Ад тугі адрачэцца...»*

*Негатывам зарос*
*Лёсу шчодрага ўзмежак.*
*Дзесьці зніклі між рос*
*Дні шчаслівых усмешак.*

*Дзе мне будзе лягчэй?*
*Між людзей — адзінота.*
*Ясны позірк вачэй*
*Захінае самота.*

*Ды ў прадмове вясны*
*Абуджэнне чытаю!*
*Адсамоцяцца сны,*
*Успамін адгукае.*

*Кожны крок, кожны міг —*
*Лёсу дар — занатую,*
*А старонкамі кніг*
*Я натхненне ўратую.*

*Мары ў рыфму спаўю,*
*Думкі адрэдагую,*
*Ноч аддам салаўю,*
*Верш сябрам адшчадрую.*

## Трывога

*Завеі ізноў карагодзяць...*
*Самотна скуголяць вятры.*
*Шапчу ім: «Ну, годзе вам, годзе!*
*Суцішцеся ўжо, ваяры!*

*Ці вас разгайдалі нябёсы?*
*Ці рэха бязглуздай вайны,*
*Дзе нішчаць бязвінныя лёсы*
*Смяротнай пагрозы сыны?»*

*Жывём, спадзяёмся на Бога,*
*А дзесьці лютуе палач,*
*І сэрца сціскае трывога...*
*І ветру самотнага плач...*



Яна ЯВІЧ

***

*Снег быццам некага чакаў.*
*А нехта зноў чакаў мяне.*
*Трамвай ён недзе сустракаў —*
*І не наяве, і не ў сне…*

*Ён быццам не пачуў званка*
*І не заўважыў халадоў...*
*Да сшытка цягнецца рука —*
*А гэты нехта знік ізноў!*

*Спрабую зоркі палічыць,*
*Што не згасаюць дзень пры дні...*
*Па небе да кагосьці імчыць*

*Самотны вершнік на кані.*

***

*Пачала дыялог ад чужога імя,*
*Толькі скончыла нейкай спантаннаю*
*фразай.*
*Цэлы вечар сягоння раздумваю я*
*Над адвечнаю тэмаю «неба ў стразах»...*

*А вачыма спынюся на гэтай руцэ,*
*Каб імгненна прабегчы па лініі лёсу.*
*Быццам кропля-сняжынка ў замерзлай*
*рацэ,*
*Я ўбяру ў сябе свежы блакіт нябёсаў.*

*Перакрэслю — і перапішу наноў*
*Учарашнюю казку пра тыя «стразы»...*
*Я адвыкла ад колішніх нашых размоў*
*І табе адкажу ўсё ж радком, а не фразай.*

***

*Зімовае неба зрабіла крок*
*Насустрач такой жа зімовай зямлі.*
*На сонцы цяпер ледзяны замок,*
*Стаяць нерухома яго караблі.*

*Ці варта ад ветру чакаць перамен,*
*Калі ёсць крылы і ёсць маршрут?*
*Сінхронна пульсуюць сукveцці вен.*
*Ты — тут.*

*Лаві асалоду ад кожнага дня*
*І памятай: кожны ў Сусвеце — госць.*
*Ёсць кропка натхнення. І ёсць вышыня.*
*Ты — ёсць.*

***

*Закахалася неба ў ціш.*
*Вецер лашчыць старонкі кнігі.*
*І я ведаю: ты не спіш —*
*Несумненна, чакаеш адлігі.*

*А ў душы не бывае пуста,*
*Бо адзіную мару маеш…*
*Зоркі, месяц, спатканне вуснаў*
*І прызнанне, што ты — кахаеш.*

***

*Трэба натхненне, каб вершы складаць,*
*Сон аддаляючы моцнаю кавай.*
*Проста калі час ад часу чытаць,*
*Дык і размова падасца цікавай.*

*Дрэвы маўкліва ўглядаюцца ў ноч.*
*Цемра старонкі імкліва гартае…*
*Выйдзі на дворык, па садзе пракроч.*
*Мроі... Вяртанне...*

Марыя КОБЕЦ



***

*Штосьці ў душы*
*зварухнулася —*
*Вецер узняўся ў цішы? —*
*Даўкай аскомай кранулася*
*Боль трапяткое душы!*

*Хвіля... і ўсё сцепанулася —*
*Роздум стаў морам ліхім —*
*Пэўна, сумленне*
*прачнулася —*
*Просіць нявoлі-тугі.*

*Просіць, да цела*
*звярнуўшыся:*
*«Хоць на парукі — вазьмі!»*
*У чорны паркаль*
*апрануўшыся,*
*Стрэну прычасце слязьмі.*

*Іголкамі ў цела ўтыркнулася,*
*Госпадзі, моца сышла.*
*Словы малітвы прачнуліся*
*І… благадаць увайшла.*
*І перад срэбраным*
*крыжыкам,*
*У бляску прасветлай свячы,*
*У ліхаманкавых дрыжыках*
*Слёзна малітву шапчу.*

*Споведзь у гук апранулася:*
*«Божа, Ты побач, Ты тут!»*
*Святасць у сэрцы*
*прачнулася —*
*Сакраментальнасць пакут.*

***

*Праўда і ісціна —*
*адзінства душы,*
*існасці сэнс*
*і пазнання Сусвету.*
*Дзе мы і хто мы*
*ля хісткай мяжы?.. —*

*Безліч памылак*
*у пошуку гэтым!*

*Мноства пытанняў*
*і столькі ж прычын —*
*Самі сваім*
*апраўданнем сагрэты.*
*Божачкі, колькі між*
*намі ілжы!*
*Колькі бяды*
*замаўляюць манеты!*

*Колькі нявер'я —*
*Балююць нажы*
*ў гандлі крывёй*
*і зямлёй пракаветнай!*
*Колькі знявагаў*
*Святое Імшы!.. —*
*Толькі не гэта,*
*Не, толькі не гэта!*

*Шлях да Галгофы…*
*Прыступкаў, сцяжын,*
*хопіць ці сіл*
*ля зямных парапетаў?!*
*Госпадзі, мілуй! —*
*Ля хісткай мяжы*
*Толькі б не збіцца нам! —*
*Толькі б не гэта!..*

Юрась НЕРАТОК



## Снегапад

*Снег нябёсы сеюць*
*Шчодраю рукой.*
*Ліхтары жаўцеюць*
*Нівай над ракой.*

*Радуюцца вочы,*
*Лёгкі думак бег,*
*Бо сягоння ўночы*
*Выпаў першы снег.*

*Дык ляці ж, крылаты,*
*Радуй зрок і слых,*
*Да сасён кашлатых,*
*Да палёў пустых!*

*Белаю пярынай*
*Дбайна засцілай*
*Родную краіну —*
*Блаславёны край!*

*Чыстае ўбранне*
*На яе надзень —*
*Хай святкуе ранне*
*Кожны новы дзень!*

## Адліга

*Шмат у свеце цудаў розных,*
*Ды сказаць не праміну,*
*Што падчас дзянькоў марозных*
*Кожны марыць пра Вясну.*

*Пацяплела раптам штосьці,*
*Снегу ўжо амаль няма.*
*І ад нечаканай госці*
*Разгубілася Зіма.*

*І не гоніць з хаты быццам,*
*І не кліча да стала…*
*Аж няёмка маладзіцы,*
*Што ў няпэўны час зайшла.*

*Уздыхнула. Што тут брудзіць*
*І нашто стаяць дарма?*
*Хоць не надта студзень студзіць,*
*Гаспадыня ў ім — Зіма.*

**Вясну мы сустракаем САКАВІКОМ, а новыя імёны ў літаратуры — дэбютнымі кнігамі. Якой выдалася яна сёлета, вясна літаратуры?**

# У чаканні росквіту

У 2016 годзе стартаваў конкурс маладых літаратараў «Першацвет». Арганізатары — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом “Звязда”», выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура». З некаторымі ўдзельнікамі конкурсу маглі знаёміцца ў тым ліку і чытачы нашай газеты. Чаму патрэбныя літаратурныя конкурсы, мы спыталі ў экспертаў і ўдзельнікаў.

**Алесь Бадак, пісьменнік, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура», член экспертнага савета конкурсу:**

— Як ні дзіўна, сёння не такі ўжо і складаны шлях да першай публікацыі ў СМІ і нават да выдання першай кнігі (прынамсі, калі параўноўваць з тым, як было ў другой палове дваццатага стагоддзя). Таму што ў чытача сёння вельмі вялікі выбар, прычым выбар літаратуры якасная і самай разнастайнай. Праз гэтыя кніжныя джунглі асабліва цяжка прабіцца да чытача маладым, пакуль невядомым аўтарам. А літаратурныя конкурсы, а найперш іх пераможцы, заўсёды прыцягваюць чытацкую ўвагу. Але такія конкурсы патрэбны не толькі самім удзельнікам. Яны патрэбны ўсёй нашай літаратуры, бо ажыўляюць літаратурны працэс, дапамагаюць сфакусіраваць увагу на тых новых павевах у ёй, некаторыя з якіх, магчыма, з часам дадуць новае дыханне, новае развіццё. Конкурсы, спадзяюся, — някепская школа для маладых аўтараў, бо яны прадугледжваюць у тым ліку і майстар-класы з вядомымі пісьменнікамі. І, нарэшце, такія конкурсы патрэбны маладым чытачам, якія часам скептычна настроены ў адносінах да нашай класічнай літаратуры, але знаходзяць нешта цікавае і важнае ў творчасці сваіх равеснікаў. З часам маладая літаратура таксама сталее, паступова набліжаючыся да лепшых узораў, створаных знакамітымі папярэднікамі. А з літаратурай сталее і чытач.

**Кацярына Роўда:**

— Для мяне ўдзел у гэтым літаратурным конкурсе — магчымасць атрымаць канструктыўную крытыку ад паважаных членаў журы, папрацаваць з выдатнымі майстрамі, данесці сваю творчасць да больш шырокага кола чытачоў. Падобныя конкурсы не заканчваюцца ўручэннем дыпломаў і памятных падарункаў, а даюць шанец маладым літаратарам убачыць свае працы ў лепшых перыядычных выданнях краіны, удзельнічаць у шматлікіх тэматычных вечарынах, што з'яўляецца фундаментам для станаўлення творчай асобы і спрыяе з'яўленню новых зорачак на літаратурным небасхіле.

**Уладзіслаў Музычэнка:**

— Удзел у гэтым конкурсе, спадзяюся, дапаможа атрымаць канструктыўную крытыку, а ў выпадку перамогі будзе добрым стымулам для далейшага развіцця.

**Ніна Лістота:**

— Калі чалавек малюе, ці можна яго назваць мастаком? Калі піша вершы — паэтам? Пасля публікацыі я паспрабавала, як новую сукенку, прымераць ролю паэткі: вынікам стала вечарына «Ніна Лістота. Нараджэнне паэта», якая прайшла ў Музеі імя Янкі Купалы. Ведаю, што ў многіх суседніх краінах, дзе ладзяцца аналагічныя моладзевыя конкурсы, пераможцам выдаюць уласную дэбютную кнігу. Застаецца спадзявацца, што хтосьці з «першацветаўцаў» пасля падвядзення вынікаў таксама займее ўласны зборнік. Бо выданне — найлепшая матэрыялізацыя любога літаратурнага праекта.

# Каханне, зомбі, рок-н-рол…

**Мінулы год атрымаўся багаты на паэтычныя дэбюты, а сёлета проза ўзяла рэванш. Кнігі маладых аўтараў вельмі розняцца між сабой. У Маргарыты Латышкевіч гэта вельмі асабістыя, лірычныя і ў нечым пацешныя апавяданні. Уладзімір Садоўскі прэзентаваў зомбі-хорар гісторыю з нацыянальным каларытам. Ксенія Шталенкова зрабіла падсумаванне — выдала адным томам тры раманы серыі «Адваротны бок люстра»... Што да паэзіі, тут дэбютантамі года варта назваць Міхала Бараноўскага і Сабіну Брыло. Прыгледзімся да кожнага паасобку.**

## ІРАНІЧНАЯ МАЛАДОСЦЬ

Так, прынамсі, дазваляюць думаць празаічныя дэбюты года. Узяць Ксенію Шталенкову, чыя першая кніга выйшла насамрэч у 2012 годзе. Казаць пра дэбют цяпер дазваляюць дзве рэчы: па-першае, сёлетні «Адваротны бок люстра» прэзентаваў раней не друкаваныя другую і трэцюю частку рамана; па-другое, упершыню Ксенія выступіла мастаком-ілюстратарам і дызайнерам кнігі ўвогуле (дасюль «малявала» толькі вокладкі). Намінальна яе твор завецца гістарычным раманам, але прыгодніцкага складніка ў ім больш. Дый у цэнтры ўвагі аўтаркі не грамадска-палітычныя падзеі Вялікага Княства Літоўскага, але стасункі між юнымі героямі — Басяй, падарожніцай у часе, і шляхціцам Міхалам. Маладосць аўтаркі (пачынала пісаць яна ажно ў 11 гадоў) не вылілася ні ў наіўнасць, ні ў залішнюю сентыментальнасць: Ксенія — дасціпны апавядальнік, уважлівы назіральнік, які ўмее паставіцца да сябе з іроніяй, што выяўляецца ў тым ліку ў вобразах герояў, далёкіх ад ідэалу, але надзвычай сімпатычных. Яе пакепліванне найперш скіраванае на схільнасць юнакоў да драматызацыі — але, вядома ж, з вялікай любоўю. Як і ў выпадку з апавяданнямі Маргарыты Латышкевіч, што выйшлі зборнікам «Яблыкі». Спадарыня Маргарыта — аўтар з несумненным пачуццём гумару і меры, што ў спалучэнні амаль заўжды дае якасны твор. Пры наяўнасці таленту, зразумела (а ён таксама маецца). Рамантык і іранічны назіральнік у адной асобе, Маргарыта піша пра маленькіх людзей (у сэнсе — дзяцей, у тым ліку тых, якія ўжо быццам бы дарослыя; а таксама — у класічным літаратуразнаўчым разуменні гэтага паняцця). Кранальная Сонечка, якая так прагне шчасця, змушанае сяброўства, прымхлівасць калегаў па працы, будні паліклінікі — усё замалёўкі з натуры, але ўдумлівасць і праніклівасць маладога празаіка ператвараюць іх у нешта большае, што хочацца параўнаць з жыццесцвярджальнымі, дый трошачку тужлівымі навеламі О. Генры.

І, несумненна, трэба быць дастаткова легкадумным (у добрым сэнсе), каб стварыць першы ў гісторыі белліту твор пра зомбі. З якімі змагаецца Агінскі. Так, той самы. Уладзімір Садоўскі ў дэбютнай кнізе «1813» прадэманстраваў, што і такім творам у нашым пісьменстве мусіць быць месца. Да нас літаратурны «жарт» падобнага роду дайшоў пазнавата — у Брытаніі, прыкладам, даўно маецца падобны зомбі-раман паводле «Гонару і перадузятасці» Осцін. Але ж дайшоў, і добра. Зрэшты, нельга сказаць, што навела «1813» (як вызначыў жанр сам аўтар) пра зомбі: больш верагодна, што размова ідзе пра здольнасць беларусаў супрацьстаяць усялякай навале: хоць маскавіты гэта, хоць зомбі, хоць свіны грып. Да ўсяго, навела зробленая ўдала з пункту гледжання асветніцкага: простая мова (але пры гэтым — добрая), займальны сюжэт, карысныя веды па гісторыі краю (чытачом вельмі можа стацца школьнік). Зацікавіць асоба Агінскага, як і падрыхтоўка паўстання 1831 года. Акром навелы, кніга ўключае пяць апавяданняў.




Калаж Віктара Калініна.

У няпростых буднях правінцыі спрабуе разабрацца Сяргей Пляскач: яго дэбютная кніга прозы «Шоу працягваецца» выйшла сёлета ў «Галіяфах». Як некалі Лабановіч, беспрацоўны настаўнік Міpановіч аказваецца ў цэнтры малапрыемных падзей. Варта зазначыць, што ўжо цяпер трэба чакаць выхаду яшчэ дзвюх кніг прозы ад «Галіяфаў»: дэбютоўцы Яніна Пінчук і Зміцер Кустоўскі.

## БУНТ МЕЛАНХОЛІІ

Чалавек, які прайшоў праз усе ступені болю, — не таму, што лёс такі жорсткі, але таму, што такая ўжо чуллівая выпала яму душа, — такім паўстае герой кнігі Сабіны Брыло «Гэта літары». Аматары паэзіі гэтае імя ведалі й да выхаду зборніка, які дэбютным можна назваць адно таму, што кніга першая. У астатнім сэнсы эпітэта не дапасуюцца да творчасці Сабіны Брыло. Гэта сталы аўтар, чыё светабачанне пазбавілася як ружовых акуляраў, так і залішніх драм. Непаўторная, у сваім светлым, трошку самаіранічным суме, яна нагадвае іншага паэта-«дэбютанта» мінулага года — Георгія Барташа з яго «Чаравічкамі». Назва «Гэта літары» тлумачыцца адно праз погляд паэта на штодзённасць, на простыя рэчы, якія яе складаюць: як ні назаві, сутнасць не зменіцца. Тут ёсць перагуканне з «Імем ружы», дакладней, сэнсам, які Эка ўкладаў у назву рамана. Паэзія Сабіны Брыло — той узровень рэальнасці, дзе ўсё называецца сваімі імёнамі, дзе аўтар вымушаны быць жорсткім дзеля праўдзівасці. Пагуляцца сэнсамі? Таксама можна. Але гэта ўжо літаратуршчына. Тут жа — самое жыццё, душа, разабраная па літарках. А можа, разбітая на іх. Неўзабаве пасля прачытання «Гэта літары» мне патрапілася на вочы цытата Джорджа Оруэла з эсэ «Добрыя кепскія кнігі»: «Цяпер модна казаць, быццам у паэзіі важныя адно словы, а “сэнс” ніякага значэння не мае, але ў сапраўднасці любы верш утрымлівае празаічны сэнс, і калі верш хоць нечага варты, то менавіта яго сэнс — гэта тое, што аўтар страсна хоча данесці да чытача». У выпадку з Сабінай Брыло цытата гэтая як нельга дарэчы.

Іншага кшталту паэзія Міхала Бараноўскага, гэтаксама вядомага шырокай публіцы, найперш дзякуючы музычнай дзейнасці (гурт «Нельга забыць»). І яго дэбют з *«Volumen.1»* — не зусім і дэбют, але падсумаванне тэкстаў, папяровы адбітак таго, што гучала шматкроць. Таму цяжка ўспрымаць яго вершы адно як вынік літаратурнай працы. Мімволі чуеш недзе там яшчэ і гукавы шэраг, голас аўтара, бачыш гэтыя лёгкія й выразныя рухі рук, якімі Міхал суправаджае чытанне. Калі паспрабаваць адасобіцца ад карцінак, якія паслужліва падсоўвае памяць, мы ўбачым грамадзянскую лірыку — калі судзіць павярхоўна. Глыбей — філасофскі роздум кшталту «быць альбо не быць», які на нашай глебе прарастае ў праблему тутэйшасці, а разам з тым — хаты з краю. Не дзіва, што тут узнікаюць яшчэ і біблейскія матывы, прынамсі, братазабойства, Хрыстос (са сваім рок-н-ролам), а «батальёны святла» гарлаюць у яго «херувімскія песні». Кантрасты ўзмацняюць адчайны настрой; адчай не той, што прымушае складаць рукі (і зброю), але той, што дадае моцы, што падштурхоўвае дзейнічаць, казаць, спяваць. Такая старая-добрая рокавая паэзія. У вершах Міхала Бараноўскага часта гучыць смех — кшталту таго, які чуецца ў вершы Янкі Купала «Смейся!..» 1915 года. Дый вобразы, калі ўжо казаць менавіта пра гэты тэкст, падобныя, і тэмы.

Яшчэ адно новае імя 2016 года — Ганна Галавіна. Яе зборнік «Яблык Зямля» якраз можна назваць дэбютным: засяроджанасць на асабістым, якая часам ператвараецца ў занураные пераасэнсаванне ўжо выказанага, адсюль — шматслоўнасць; характэрныя адпрыродныя вобразы (даждж, ноч, поўня, вятры — сімволіка рамантызму). Але назваць кнігу нявартай увагі нельга: тут ёсць трапныя, нават бездакорныя радкі, яркія вобразы, разняволенасць і смеласць. Да таго ж, Ганна Галавіна прадставіла паэму ў эксперыментальнай форме «Атлантыда». Так, часам слова паэткі яшчэ не пэўнае, недапрацаванае, але яно неспрэчна належыць ёй, а не запазычана з чужога тоўстага тома.

Некалькі дэбютных кніг прэзентавала сёлета серыя «Маладая паэзія Беларусі»: гэта зборнікі «Навобмацак» Ірыны Карэлінай, «Таямніца» Марыі Бельскай, «Ідолта» Марыі Радзіхоўскай, «Падглядаю ваш сон» Ганны Федарук. Усе іх лучыць падкрэсленая жаноцкасць творчасці, з рознымі акцэнтамі: у першай аўтаркі — на інтымнай лірыцы, у другой — на тэме сям'і, у трэцяй гучыць радаснае адчуванне юнацтва, у чацвёртай, зноў жа, — каханне з яго пакутамі. Падрабязна пра названыя кнігі мы пісалі раней.

І на завяршэнне добрая навіна для аматараў паэзіі: неўзабаве пабачаць свет доўгачаканы зборнік Аляксея Арцёмава, а таксама кніга Ганны Комар і Яўгена Бясчаснага.

**Наста ГРЫШЧУК**

**КРАСАВІК — той месяц, калі вясна ўжо становіцца паўнаўладнай гаспадыняй прыроды. Красуе наваколле ва ўсім багацці колераў і адценняў — гэтак жа, як літаратурная класіка дэманструе ўсё магчымае багацце мастацкіх каштоўнасцей нацыі.**

# Здзейсніць абяцанае

## ЗА ГУЧНЫМІ ІМЁНАМІ

Год культуры распачаўся святкаваннем юбілейных дат — 95-годдзя з дня нараджэння народных пісьменнікаў Беларусі Івана Шамякіна і Івана Мележа. У сталіцы адбыўся прымеркаваны да ўрачыстай даты паказ спектакля «Людзі на балоце» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, дзе ганаровымі гасцямі былі дочкі і ўнук Івана Мележа. А Першы нацыянальны канал Беларускага радыё зладзіў адмыслова да 95-годдзя з дня нараджэння Івана Шамякіна «Юбілейны тыдзень», цягам якога гучалі для зацікаўленых слухачоў радыёспектаклі паводле твораў «Сэрца на далоні», «Залаты медаль», «Трывожнае шчасце».

Шматлікія святочныя і навуковыя мерапрыемствы ў розных установах краіны на працягу года былі прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Кандрата Крапівы. У Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуская літаратура ў культурнай прасторы сучаснага грамадства», праца асобных секцый якой была прысвечана жыццю і творчасці Кандрата Крапівы. Годна адзначылі юбілей ва Уздзенскай школе № 2, якая носіць імя славутага земляка. Былі наладжаны ўрачыстыя мерапрыемствы ў Дзелавым і культурным комплексе беларускага пасольства ў Маскве.

У красавіку вялікую цікавасць у літаратазнаўчым свеце выклікала святкаванне 130-годдзя з дня нараджэння Змітрака Бядулі. Прысвечаныя гэтай падзеі традыцыйныя «Узвышаўскія чытанні» ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ледзь змясцілі ўсіх ахвотных і зацікаўленых. Сярэдзіна лета — 15 ліпеня — стала нагодай прыгадаць Алаізу Пашкевіч, сяброўская мянушка якой — Цётка — ператварылася ўрэшце ў сталы літаратурны псеўданім. Ушанаваннем памяці Генадзя Бураўкіна скончылася лета. А вось 85-годдзе з дня нараджэння Ніла Гілевіча адзначалася з адчуваннем нядаўняй страты: паўгода не дажыў да гэтай даты народны паэт Беларусі.

Працягнуліся самотныя матывы і ўвосень: у лістападзе адзначаліся юбілеі Міхася Чарота і Міхася Зарэцкага — двух пісьменнікаў з аднолькавымі імёнамі, якія нарадзіліся з розніцай у пяць гадоў, але былі расстраляныя ў адзін дзень — 29 кастрычніка 1937 года.

Аднак снежань усё-ткі прадвызначыўся перадкалядным настроем: вялікай падзеяй не толькі ў літаратурным асяроддзі, але і ў культурным жыцці ўсёй краіны стала святкаванне 125-гадовага юбілею Максіма Багдановіча.

Часам так здараецца, што за гучнымі імёнамі класікаў і яркімі юбілейнымі мерапрыемствамі незаўважанымі застаюцца важныя даты ў жыцці іншых удзельнікаў літаратурнага жыцця — пісьменнікаў, перакладчыкаў, літаратуразнаўцаў... У народзе кажуць, што перад Новым годам трэба абавязкова сплаціць віны: здзейсніць абяцанае і аддаць пазыкі. Таму сёння мы прапануем згадаць імёны тых, з кім можна сустрэцца, пагутарыць і павіншаваць асабіста.

## ПРАЦЯГ У ВЕЧНАСЦЬ

Калі пра пісьменнікаў у перыёдыцы пішацца шмат, то пра тых людзей, праз руплівую працу якіх беларуская літаратура не знікае ў бездані часу, а жыве ў іншамоўным кантэксце, знаходзіць каралі ў старажытнасці і працягваецца ў вечнасць, чамусьці згадваюць радзей. Гаворка пра навукоўцаў-літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры, перакладчыкаў. Сёлета юбілеі адзначылі Міхась Мушынскі, Лідзія Савік, Любоў Гарэлік, Васіль Жураўлёў, Ірына Багдановіч.

Свой 80-гадовы юбілей адзначыў сёлета перакладчык Васіль Сёмуха, дзякуючы якому наш чытач не пачуваецца самотным у шырокім моры сусветнай літаратуры. Адзін з самых важкіх яго перакладчыцкіх праектаў, бясспрэчна, — пераклад Бібліі на беларускую мову. Гэтая грунтоўная праца, якая доўжылася 14 гадоў, выклікала розныя водгукі і дагэтуль успрымаецца неадназначна. Аднак тое, што да перакладу Сёмухі звяртаюцца беларускія вернікі, якія маюць патрэбу ў Слове Божым на роднай мове, застаецца фактам.





Менавіта Васіль Сёмуха прызнаны аўтарам найлепшага перакладу «Фаўста» Гётэ на славянскія мовы. Аднак, нягледзячы на вялікую колькасць гучных імёнаў у «перакладчыцкім кошыку» (Гётэ, Гесэ, Шылер, Гейне, Ман, Брэхт, Рыльке, Міцкевіч, Райніс), сам Васіль Сяргеевіч лічыць сваім галоўным перакладам невялічкі зборнічак паэзіі латышскай паэткі Візмы Бэлшавіцы, думкі і пачуцці якой аказаліся яму надзвычай сугучнымі.

Васіль Сёмуха мае аўтарытэт глыбокага знаўцы беларускай мовы, у яго перакладчыцкіх тэкстах прысутнічаюць словы, зразумелыя сёння не кожнаму. Аднак пранікненне ў моўную плынь карысна не толькі на лексічным узроўні — значна большую цікавасць выклікае аўтэнтычнасць сінтаксічных канструкцый. Паколькі менавіта адметнасці сінтаксісу адлюстроўваюць лад мыслення народа, то і нівеляванне спрадвечных правілаў пабудовы сказу мае сур'ёзныя наступствы не толькі для мовазнаўчай сістэмы. Захаваць аўтэнтыку спецыфічна беларускага мыслення — ды яшчэ пры перастварэнні іншамоўных мастацкіх каштоўнасцей — задача, падуладная толькі сапраўднаму майстру слова.

У любым мастацкім асяроддзі абавязкова ёсць творцы, якія становяцца легендамі яшчэ пры жыцці і ўспрымаюцца для сваіх сучаснікаў своеасаблівымі «цэнтрамі прыцягнення». Мабыць, у кожнага літаратара старэйшага пакалення ёсць асабістая гісторыя пра Уладзіміра Караткевіча.

Напрыклад, менавіта Караткевіч даваў рэкамендацыю Васілю Сёмуху ў Саюз пісьменнікаў, быў хросным бацькам яго дачкі. Знакаміты стылізаваны пад старажытныя рукапісы аўтограф-віншаванне Караткевіча захоўваецца ў асабістым архіве Вячаслава Чамярыцкага, які сёлета таксама адзначаў васьмідзесяцігадовы юбілей.

Вячаслаў Чамярыцкі — літаратуразнавец, гісторык літаратуры, крытык, скарыназнавец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1994 г.). Яго грунтоўная манаграфія «Беларускія летапісы як помнікі літаратуры» атрымала шырокі розгалас не толькі ў беларускіх навуковых колах, але і за мяжой як першая праца на беларускай мове па гісторыі летапіснага жанру ў Беларусі. Вячаслаў Чамярыцкі пачынаў выступаць у друку менавіта як літаратурны крытык, з рэцэнзіямі на творы маладых паэтаў, аднак не ўсе ведаюць, што будучы знаны даследчык і сам змяшчаў у перыёдыцы вершы.

Вячаслаў Антонавіч не абмяжоўвае свае інтарэсы акадэмічнымі штудыямі: бярэ ўдзел у стварэнні вучэбных дапаможнікаў, падручнікаў, праграм, даваў кансультацыі пры стварэнні Полацкага музея беларускага кнігадрукавання, дапамагае Навагрудскаму і Дзятлаўскаму гісторыка-краязнаўчаму музеям у папаўненні фондаў неабходнай літаратурай. Дарэчы, і сваё 80-годдзе адзначыў на любай Навагрудчыне: адмысловая святочная вечарына ладзілася ў Навагрудскай раённай бібліятэцы.





На ўкраінскую мову пераклада творы Уладзіміра Караткевіча даследчыца беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязяў Таццяна Кабржыцкая, якую сёлета віншавалі з 75-годдзем.

Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша — самыя аўтарытэтныя ў Беларусі даследчыкі беларуска-ўкраінскіх культурных кантактаў. Іх манаграфія «Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку ХХ стагоддзя», выдадзеная ў 1976 годзе, да гэтага часу застаецца актуальнай. Важнай падзеяй стала вяртанне ў літаратурны і літаратуразнаўчы кантэкст імя і творчасці загадкавага сябра М. Багдановіча і Я. Купалы Сяргея Палуяна, што стала магчымым менавіта дзякуючы грунтоўнай даследчыцкай працы Т. Кабржыцкай і В. Рагойшы (падрыхтоўка да друку кнігі твораў С. Палуяна «Лісты ў будучыню» і манаграфія «Слядамі знічкі: Пра Сяргея Палуяна»).

## ТОЙ НЕ САМОТНЫ, ХТО КНІГУ МАЕ

Юбілейным датам славутых творцаў прысвячаліся цягам года асобныя публікацыі ў «ЛіМе». Але хацелася б згадаць тых, хто таксама варты ўвагі. Адзін з найстарэйшых беларускіх паэтаў — Іван Муравейка — адзначыў 95-годдзе. «Над Айчынаю дыхае вечнасць» у вершах Антаніны Хатэнкі, якую акурат напрыканцы красавіка віншавалі з шасцідзесяцігоддзем. На шчасце, па-ранейшаму вядзе «імклівы век» паэт Сяргей Законнікаў «па той зямлі, што пахне хлебам». А пакуль у жанры гістарычнай прозы працуе сёлетні юбіляр Эрнест Ялугін, ёсць спадзеў, што ніхто з важных асоб беларускай гісторыі не застанецца «без эпітафіі»...

Ёсць сярод сёлетніх юбіляраў тыя, чый творчы лёс пэўны час быў вельмі цесна звязны з газетай «Літаратура і мастацтва». Напрыклад, Уладзімір Ягоўдзік — празаік, драматург, лаўрэат Літаратурнай прэміі Янкі Маўра, у 1982 — 1990 гг. быў спецыяльным карэспандэнтам «ЛіМа», 14 лютага адзначыў шасцідзесяцігоддзе.

Уладзімір Ягоўдзік ужо колькі гадоў займаецца выданнем патрыятычна-аветніцкай літаратуры для дзяцей на беларускай мове. Толькі за апошні час выйшлі кніга беларускіх легенд і паданняў «Сіні калодзеж» (2012 г.), своеасаблівы прыродазнаўчы даведнік для дзяцей «Годкарагод» (2013 г.), «Шлях Раргвалода» (2013 г.). Вялікую цікавасць выклікала выдадзеная летась кніга «Быў знак на небе», у якой сабраныя звесткі пра беларускія прыродныя з'явы, зафіксаваныя ў летапісах і друкаваных выданнях, за тысячу гадоў — з 1002 года.

Сапраўдную павагу выклікаюць пісьменнікі, чый клопат пра беларушчыну не абмяжоўваецца палымянымі прамовамі і паэтычнымі заклікамі (якія часта нават і не даходзяць да адрасатаў, а ўспрымаюцца толькі тымі, каму насамарэч нічога тлумачыць не трэба), але вызяўляецца ў канкрэтнай асветніцка-прапагандысцкай дзейнасці. Уладзімір Ягоўдзік арыентуецца, бадай, на самую ўдзячную, але і самую складаную чытацкую аўдыторыю — дзяцей, падлеткаў, юнакоў, стварае кнігі і выдавецкія праекты з мэтай зрабіць Беларусь не павучальным лозунгам пра любоў да радзімы са школьнага падручніка, але асабістай рэчаіснасцю, адчувальнай тут і цяпер. А галоўнае — любай, цікавай, пазнавальнай.

З шэрагу такіх творцаў, якія на пэўным узроўні пачынаюць працаваць не столькі на сябе, колькі больш на карысць агульнай справы, — паэтэса, перакладчыца, галоўны рэдактар хрысціянскіх перыядычных выданняў «Наша вера» і «Ave, Maria» Хрысціна Лялько. Сёлета да шасцідзесяцігоддзя паэтэсы было прымеркавана выданне новага зборніка яе вершаў «Адвячорак».

Апошнім часам Хрысціна Лялько не так часта выступае ў друку з уласнымі вершамі, таму выхад новай кнігі, палову з якой, праўда, складаюць пераклады польскай духоўнай паэзіі, стаў сапраўды адметнай падзеяй.

Цешыць, што ўрачыстыя мерапрыемствы ладзіліся найперш на малой радзіме творцаў — з ініцыятывы школ, бібліятэк і мясцовых уладаў. Да ўдзелу ў чытаннях, прэзентацыях, навуковых канферэнцыях актыўна далучаліся школьнікі. Хочацца верыць, што для іх — тых, каму ўрэшце адрасуюць сваю творчасць беларускія пісьменнікі, юбілейныя даты не адзіная нагода вывучаць спадчыну славутых землякоў і чытаць іх кнігі.

**Яўген ГЛЕЧЫК, Наталля НАРУТОВІЧ**

## ДАКРАНУЦЦА ДА ТААМНІЦЫ



125 гадоў таму — у чароўны калядны дзень 25 снежня — нарадзілася Уладзіслава Францаўна Луцэвіч — жонка і галоўная захавальніца спадчыны Янкі Купалы.

Настаўніца па адукацыі, 34 гады У. Луцэвіч прысвяціла дзецям. Любоў да роднай зямлі, да беларускай мовы, паэзіі, культуры яна клапатліва перадавала сваім выхаванцам, якія адказвалі ёй адданасцю і павагай. «...Яна была спакойная, простая, лагодная і нейкая незвычайна чуйная. Я не помню, каб мне калі ў жыцці было з кім так лёгка і добра з першай хвіліны знаёмства», — успамінала блізкая сяброўка Уладзіславы Францаўны Канстанцыя Буйло.

З Янкам Купалам Улада Станкевіч пазнаёмілася ў 1908 годзе ў Вільні: разам наведвалі літаратурныя вечарыны, тэатры, кнігарні. 23 студзеня 1916 г. у Маскве, у касцёле святых Пятра і Паўла, яны абвянчаліся. Іх шлюб быў амаль для ўсіх сяброў і знаёмых узорам шчаслівай і надзейнай сям'і.

Калі ў 1942 годзе Янкі Купалы не стала, Уладзіслава Францаўна прысвяціла жыццё збіранню, захаванню спадчыны і арганізацыі музея імя Янкі Купалы, першым дырэктарам якога яна і стала.

Праз год пасля смерці мужа Уладзіслава Францаўна напіша: «Мне вельмі цяжка гаварыць пра Купалу... Мне цяжка капацца ў сваіх ранах». Але яна будзе працаваць! Ізноў вяртацца ў мінулае, перабіраць рэчы, кнігі, фатаграфіі... Ужо 20 верасня 1945 года адкрылася першая выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці паэта.

...Дзверы новага музея, пабудаванага на месцы дома Янкі Купалы, расчыніліся ў маі 1960 года — ужо без Уладзіславы Францаўны.

**Надзея САЕВІЧ, Марына ПЛАЎСКАЯ**

**МАЙ — месяц напярэдадні доўгіх школьных канікулаў, але менавіта ў гэты час тэма «дзеці і кніга» робіцца вельмі істотнай. Улетку трэба не толькі агораць спіс літаратуры для пазакласнага чытання, але і прыхапіць на адпачынак цікавае выданне каго-небудзь з сучасных аўтараў...**

# ЧАСТКА СЯМЕЙНАЙ ГІСТОРЫІ

Чытанне лічыцца адным з самых карысных хобі для дзяцей: развівае фантазію і творчае мысленне, дапамагае на інтуітыўным узроўні засвоіць граматычныя і арфаграфічныя правілы. Бацькі маюць быць прыкладам для дзяцей у многіх справах, і чытанне не выключэнне!

Даследаванне, праведзенае Кіліян Мулан, навуковым супрацоўнікам Даследчага цэнтра сацыяльна-палітычных навук Універсітэта Новага Паўднёвага Уэльса, дазволіла зрабіць вынік, што самыя захопленыя хлопчыкі-чытачы гадуюцца ў сем'ях, дзе захапляюцца чытаннем таты. У дзяўчат-чытачак яе правіла чытаюць матулі. У няпоўных сем'ях, дзе дзяцей выхоўвае толькі маці, яе любоў да чытання ў аднолькавай ступені ўплывае як на дачок, так і на сыноў.

Але бацькі павінны прысвячаць чытанню кніг, газет ці часопісаў прынамсі 50 хвілін на дзень, каб іх прыклад прадвызначыў літаратурныя прыхільнасці дзяцей. Прычым чытаць бацькі павінны на вачах у дзяцей.

Даследаванне заснаванае на вывучэнні журналаў уліку выдаткаванага часу за адзін тыповы дзень у поўных і няпоўных сем'ях Англіі.

Аднак зусім нямногія бацькі так шмат чытаюць, і толькі 17% хлопчыкаў і 26% дзяўчат чыталі што-небудзь на працягу даследаванага дня, за выключэннем хатняга задання. Мультфільмы і камп'ютарныя гульні ствараюць усё большую канкурэнцыю кнігам. Таму, каб прывабіць дзяцей да чытання, вельмі важна звяртаць увагу на матывацыю.

Калі бацькі падштурхоўваюць дзяцей да чытання фразамі накшталт «ідзі, вазьмі кнігу, табе трэба прачытаць 10 старонак у дзень» альбо «настаўніца сказала, што ў цябе самая нізкая тэхніка чытання, чаму ты ў планшэт гуляеш?», гэта на корані забівае ўсялякае жаданне пераадольваць сябе. Прымусовым шляхам вельмі складана дамагчыся, каб дзіця пасябравала з кнігай. Адпаведна, аргументы на карысць чытання маюць быць больш натхняльнымі.

Чаму мы прапануем дзіцяці звярнуць увагу на пэўнае выданне? Размову можна распачаць цікавым фактам з біяграфіі аўтара, успамінам пра ўласную сустрэчу з гэтай кнігай, кароткім распаведам пра выданне як важны экзэмпляр хатняй бібліятэкі, з якім звязана нейкая сямейная гісторыя. Можна падкрэсліць значнасць тэмы, адзначыць падабенства аднаго з галоўных герояў да добра знаёмага вам чалавека ці проста падзяліцца ўражаннямі пра першыя толькі што прачытаныя старонкі.

Атрымалася зацікавіць? Выдатна! Калі дзіця ўжо ўмее добра чытаць, не забывайцеся часам удакладняць, што адбываецца ў творы. Дзеці актыўна даюць уласныя ацэнкі ўчынкам герояў, асэнсоўваюць нюансы сюжэтаў, вызначаюць матывацыю персанажаў. Трэба разумна гэтым карыстацца і падштурхоўваць чытача-школьніка да дыялогу, бо кніга — нагода абмеркаваць многія сітуацыі і праблемы.

Каб падтрымаць цікавасць да кніг, варта часам размаўляць пра чытацкія прыхільнасці, распавядаць пра ўласныя літаратурныя знаходкі. Тады чытанне будзе добрай сямейнай традыцыяй, якая дакладна не перапынецца ў будучыні.

Сучасны дарослы чалавек, заклапочаны сур'ёзнымі справамі, не заўсёды знаходзіць час на размову пра літаратуру і тым больш на штодзённыя вечаровыя чытанні з дзецьмі. Але схіляць нашчадкаў да кніг, безумоўна, варта. Значнасць чытання пацвярджаецца шматлікімі навуковымі даследаваннямі. Так, у ЗША навукоўцы на працягу 20 гадоў збіралі дадзеныя і прыйшлі да высновы, што тэмпы засваення пісьменнасці і колькасць кніг у доме ўплываюць на ўзровень адукацыі, якую дзіця атрымае ў далейшым, нашмат больш, чым сацыяльны статус і ўзровень даходу сям'і. Забяспечыць дзіцяці доступ да разнастайных кніг, выхаваць у ім захопленага чытача — самы просты спосаб выгадаваць разумнага чалавека, які крытычна мысліць і імкнецца да ведаў.

**Наталля МЯДЗВЕДЗЬ**



*Фота Кастуся Дробава.*

# Што чытаем?

**Выданні для дзяцей — не толькі нагода для спакойнага ўдумлівага чытання, але і яркія ўражанні. Школьнікі і бацькі самых маленькіх чытачоў згадваюць цікавыя сустрэчы з кнігамі.**

**Валерыя Раманчук, 11 клас, СШ № 12 г. Гродна:**

— Уразіў зборнік твораў Максіма Багдановіча, які прачытала ў снежні. Вершы паэта гучаць цудоўнай музыкай у душы. Лёгкія, пяшчотныя, бы матылькі. Такія розныя, такія глыбокія. Яны запрашаюць да роздуму, дыялогу, дораць адчуванне бязмежнасці прасторы, свабоды, касмічнасці існавання. Нечаканай для мяне стала адсутнасць строгай дакладнай рыфмы, шчырасць і адкрытасць аўтара. Выбраць з вершаў Максіма Багдановіча адзін найбольш цікавы аказалася складаным. Мяне кранулі адразу некалькі. Веру, што кожны можа знайсці для сябе ў гэтым зборніку праніклівыя сардэчныя радкі, захапіцца харством гучання роднай мовы.

**Паліна Забела, 11 клас, гімназія № 1 г. Слуцка:**

— Вельмі спадабаўся паэтычны зборнік Кірылы Анохіна «Асцярожна, дрэвы зачыняюцца». У некалькіх радках — глыбокі змест, філасофскі, інтымны, і неверагодная метафарычнасць. Гульня слоў, вобразы, якія стаяць па-за ўяўленнем... Я ў захапленні ад таленту Кірылы Анохіна, хоць разумею, што шмат чаго ён узяў ад Алеся Разанава. Мне падабаецца сучасная паэзія. Шукаю ў вершах новыя думкі, чытаю, каб углыбіцца ў невядомыя раней сэнсы, імкнуся зразумець, што хацеў данесці аўтар, што ён адчуваў, калі пісаў.

**Крысціна Забела, 11 клас, гімназія №1 г. Слуцка:**

— Апошняя запамінальная беларуская кніга — «Сцюдзёны вырай» Віктара Марціновіча. Нехта са знакамітых казаў, што больш за ўсё нас ўражваюць кнігі, у якіх думкі аўтара супадаюць з нашымі ўласнымі. Так адбылося са «Сцюдзёным выраем». Да таго ж мне, як магчымаму філолагу, захацелася гэты цудоўны твор прааналізаваць. Асабліва цікавая кампазіцыя: ёсць кніга, напісаная пэўнай асобай, потым гэтую кнігу каментуе другі чалавек, трэці выказваецца наконт кнігі і каментара другога і гэтак далей. Але кожны сцвярджае, што папярэдні хлусіць. Жадаючы зразумець, дзе ж праўда, чытаеш усё хутчэй ды хутчэй. «Сцюдзёны вырай» — твор, пасля якога нейкі час не хочацца чытаць нічога іншага, бо патрэбна спыніцца і паразважаць.

**Кацярына Тарасава, 10 клас, СШ № 157 г. Мінска:**

— Ніколі не стамлялася здзіўляцца талентам Васіля Быкава. Нядаўна прачытала кнігі з калекцыі «Мая беларуская кніга» — творы «Альпійская балада» і «Пакахай мяне, салдацік». Дзякуючы гэтым аповесцям разумееш, што, калі пачынаецца вайна, нічога не спыняецца: ні час, ні пачуцці, ні каханне...

**Яніна Янішчыц, 8 клас, гімназія-каледж мастацтваў г. Мінска:**

— Самыя цудоўныя творы, якія сёлета адкрыла для сябе, — гэта аповесці Уладзіміра Караткевіча. «Дзікае паляванне караля Стаха» распавядае пра таямнічае мінулае нашай зямлі, пераносіць у той трагічны перыяд гісторыі, дзе кожны сам супраць сябе. Аповесць «Паром на бурнай рацэ» — дзіўнае спалучэнне характараў і думак розных людзей. Мяркую, што гэтымі творамі Уладзімір Караткевіч спадзяваўся нагадаць, што мы беларусы. Каб кожны з нас не забываўся на сваю гісторыю і мову. Гэтыя цудоўныя аповесці вучаць у любых абставінах перш за ўсё заставацца людзьмі, любіць радзіму і не здраджваць сабе.

**Дар'я Пыж, 7 клас, СШ № 12 г. Гродна:**

— Уразіла кніга Тамары Бунта «Дзяўчынка з Вішнёвага завулка», якую я прачытала разам з мамай гэтым летам. Ніколі б не падумала, што сёння пішуць кнігі пра звычайных дзяўчат. Многія гісторыі вельмі падобныя да маіх уласных. І дом, і сябры, і радасці, і праблемы. Нібыта пісьменнік ведае мяне шмат гадоў. А яшчэ вельмі спадабалася мова твора: яскравая, смачная і сакавітая, як першыя клубніцы на маім лецішчы. Цяпер я буду часцей чытаць кнігі па-беларуску, дзякуй дзяўчынцы з Вішнёвага завулка!

**Ян Мусвідас, 7 клас, гімназія № 30 г. Мінска:**

— Летась мяне больш за ўсё ўразіла выданне «Жыццё і дзіўныя прыгоды марахода Рабінзона Круза». З гэтым творам быў знаёмы з маленства. Калісьці мама чытала мне яго ў адаптаваным для дзяцей варыянце. Але год таму адбылося чарговае і больш падрабязнае знаёмства з «Рабінзонам». На Новы год сястра падарыла новае выданне на беларускай мове ў перакладзе Алены Васілевіч. Калі ў маіх руках апынуўся прыгожы і добра ілюстраваны падарунак (мастак — Валянцін Макаранка), я вельмі зацікавіўся. Кніга чыталася лёгка, нібыта распеўна. Праглынуў за некалькі дзён і быў вельмі шчаслівы, што сустрэўся з беларускамоўным Рабінзонам.

**Марыя Шкляр, 7 клас, Бігосаўская сярэдняя школа: (Верхнядзвінскі раён)**

— Аповесць Алеся Бадака «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца» запомнілася мне больш за іншыя творы. Пасля яе зразумела, што нам, падлеткам, трэба адрозніваць маладых настаўнікаў ад проста маладых людзей і старэйшых сясцёр, братоў. Трэба ставіцца да настаўнікаў з павагай. Гэта аповесць вельмі цікавая! Раю прачытаць і дарослым, і падлеткам.

**Раман Дзіскавец, 4 клас, СШ № 12 г. Гродна:**

— Вельмі зацікавіла кніга Уладзіміра Ліпскага «Вясёлка над Нёманам». Пісьменнік прапануе займальнае падарожжа па гродзенскай зямлі. Расказвае пра сенняшні дзень, зазірае ў будучыню, згадвае таямніцы гісторыі Гродзеншчыны. Дзівосная вандроўка дорыць цуды, аўтар вучыць нас бачыць і цаніць харство роднай прыроды, звычаяў і абрадаў продкаў. Лічу, гэтую кнігу варта прачытаць кожнаму хлапчуку і дзяўчынцы. І ад імя чытачоў звяртаюся да аўтара:

*Я дзякую Вам, Уладзімір Ліпскі,*
*За дзіўную кнігу «Вяселка над Нёманам»,*
*Дзе скарбам зямлі падпявае вятрыска*
*На шчырай пявучай матчынай мове.*

**Ільля Субат, 5 год, г. Смалявічы (адказвае мама):**

— Адкрыццём для нас сталі кніжкі «Вялікія прыгоды Какоса-Маракоса» Сержа Мінскевіча і першы том збору твораў Алега Мінкіна «Добрыя вершы». «Добрыя вершы» чытаем на сон ці падчас адпачынку, а Какоса-Маракоса нават цытуем на памяць, асабліва хвацкую прыпеўку «Какос-Маракос шпарчэй плыве сваім шляхам далей». Вельмі падабаецца не толькі змест ды высокае паэтычнае майстэрства: на самым высокім узроўні — выдавецкія якасці кніжак. Мінскевіч выдадзены вельмі мадэрнова, дынамічна, з фантазіяй, гэта сапраўды кніга для сучаснага дзіцяці. Крэатыўны падыход выдавецтва «Мастацкая літаратура» прыемна здзівіў.

**Аляксей Трафімчык, 4 гады, г. Мінск (адказвае тата):**

— З паэзіі нам цяпер вельмі падабаюцца кнігі «Выпаў грук у грома з рук» Рыгора Барадуліна і «Лясная трывога» Віктара Гардзея. Сын з задавальненнем дэкламуе па памяці доўгі вершык з гэтай кнігі, пры гэтым па-акцёрску інтаніруе. З прозы пад увагу трапіла кніга Алены Масла «Пацучок Фэлік падарожнічае». Падабаюцца Лёшу не толькі казкі і прыгодніцкія аповесці, але і апавяданні, у тым ліку рэалістычныя, дзе апісваюцца здарэнні з жыцця. Так, мы выпадкова знайшлі ў «Вясёлцы» апавяданне Андрэя Федарэнкі пра прыгоды мухі. Твор напісаны гладка, добра... Муха напачатку сядзіць на стале, глядзіць на чалавека і думае: як жа ён так сядзіць дагары нагамі? Потым у яе пачынаюцца свае прыгоды... Не ведаю, што сын успрымае, але слухаў не так даўно з задавальненнем па некалькі разоў.

Аляксей таксама чытае часопісы «Гарбузік», «Буся». Любіць разам з маці паразгадваць заданні, нешта павыклейваць, павырэзваць, змайстраваць. Такія заданні ў выданнях для дзяцей вельмі патрэбныя, бо развіваюць маторыку і густ.

**Улетку ў Маладзечне штогод ладзіцца знакаміты Нацыянальны фестываль беларускай паэзіі і песні. Сёлетняе свята ў сярэдзіне ЧЭРВЕНЯ стала асабліва значным: Маладзечна — культурная сталіца Беларусі ў 2016-м! Маладзечанскі фестываль — яшчэ і свята беларускай мовы. Мова лучыць нас з продкамі і аб'ядноўвае ў адзін народ, мова належыць кожнаму з нас і адначасна — усёй этнічнай супольнасці. Мова — не толькі спадчына, але і наша сучаснасць, пра што сведчаць цікавыя праекты, якія дапамагаюць удасканаліць веданне мовы ці вывучыць яе амаль з нуля.**

# 23 ІДЭІ ВЫВУЧЫЦЬ МОВУ

## узровень A0 — C2

*Калі сярод вашых сваякоў і знаёмых ёсць людзі, якія хацелі б лепш ведаць беларускую мову, на гэтай старонцы знойдзецца шмат карысных ідэй. Да таго ж, агляд беларускамоўных праектаў, актуальных у 2016 годзе, дапамагае з аптымізмам глядзець не толькі ў надыходзячы год, але і ў наступныя дзесяцігоддзі!*

## КУРСЫ

Яшчэ некалькі гадоў таму курсы беларускай мовы былі скіраваныя выключна на падрыхтоўку да цэнтралізаванага тэсціравання альбо ўступных экзаменаў. Сітуацыя змянілася ў 2013 — 2014 гг.: нарэшце з'явіліся курсы для тых, хто ўжо (яшчэ) не цікавіцца ўступнымі кампаніямі, але жадае прыгожа і правільна размаўляць па-беларуску.

Фарміраванне ўменняў практычнага выкарыстання мовы ў маўленчай дзейнасці — мэта, якая ў рэальным адукацыйным працэсе звычайна адсунута на другі план. Таму ў вялікіх гарадах, дзе пераважае рускамоўнае насельніцтва, школьных ведаў часта не хапае, каб адчуваць сябе ўпэўненым моўцам. Вырашыць праблему дапамагаюць курсы, якія карыстаюцца сёння дастаткова папулярнасцю.

Так, самыя вядомыя **курсы «Мова нанова»** штотыдзень наведвае каля 650 студэнтаў. На занятках «для дарослых» у займальнай, нязмушанай форме вывучаецца лексіка і граматыка, згадваюцца цікавыя факты з гісторыі і культуры Беларусі, арганізоўваюцца сустрэчы з вядомымі беларускамоўнымі асобамі. Курсы «Мова нанова» дзейнічаюць у адзінаццаці гарадах Беларусі: акрамя абласных цэнтраў, гэта Астравец, Бабруйск, Баранавічы, Маладзечна, Светлагорск.

— Сёння курсы ва ўсіх гарадах паказваюць дастатковую ўстойлівасць. Цешымся, што расце колькасць наведнікаў, напрыклад, у Гомелі, Бабруйску. Заняткі паўсюдна адбываюцца рэгулярна раз на тыдзень, — распавядае выкладчыца Алеся Літвіноўская, якая арганізавала курсы разам з журналістам Глебам Лабадзенкам.

На сайце курсаў выкладзена **больш за 100 гатовых урокаў**, у тым ліку з відэаролікамі. Гэта дазваляе вывучаць мову дыстанцыйна альбо выкарыстоўваць цікавыя заданні ва ўласнай педагагічна-выхаваўчай практыцы (вядома, са спасылкай на сайт).

У шэрагу гарадоў, у тым ліку ў сталіцы, дзейнічаюць **курсы «Мова нанова» для дзяцей** — бясплатныя, як і курсы для дарослых. Маленькіх беларусаў таксама чакаюць **курсы ў адукацыйных цэнтрах «Дарсай», «Айсмарт», «Цэнтр славянскіх моў і культур»**. Асаблівая ўвага на занятках надаецца папаўненню слоўнікавага запасу, засваенню правіл беларускага вымаўлення, развіццю вуснага маўлення. Шмат гульняў, цікавых заданняў, заахвочванне ўласнай ініцыятывы... Такія заняткі — не толькі мара кожнага вучня, але і выдатная магчымасць пераадолець моўны бар'ер.

— У Цэнтр славянскіх моў і культур часта прыходзяць бацькі, якія кажуць, што дзіця не любіць урокі беларускай мовы, у яго дрэнныя адзнакі, настаўнік кепскі і «этот язык ужасный». Пасля першых заняткаў у Цэнтры дзеці змяняюць сваё меркаванне, бо бачаць, што на мове можна не толькі гаварыць, але і спяваць, і гуляць, і яшчэ шмат чаго цікавага рабіць. Мы вучым размаўляць, а на граматычныя нюансы звяртаем увагу, не прымушаючы дзяцей вучыць правілы на памяць: правілы патрэбны, каб правільна гаварыць! — дзеліцца досведам Ірына Зімнева, дырэктар Цэнтра славянскіх моў і культур.




*Фота з сайта imbryk.by.*

## КНІГІ

Са школьных гадоў мы ведаем: каб правільна размаўляць, трэба шмат чытаць. Мову немагчыма засвоіць без падручнікаў, слоўнікаў, мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры. 2016 год стаў асабліва ўраджайным на дапаможнікі па беларускай мове. У шэраг нешматлікіх народаў нашай планеты, якія маюць уласныя падручнікі па беларускай мове, патрапілі японцы. У Цукубскім універсітэце пабачыла свет **першая частка азнаямляльна-пачатковага курса беларускай мовы для японцаў «Спрабуйма!»** (аўтары Таццяна Рамза і Сёры Кіёсава, рэдактар Тасінобу Усуяма). На Першым міжнародным навуковым кангрэсе беларускай культуры аспірантка Цукубскага ўніверсітэта Сёры Кіёсава засведчыла, што японцы могуць выдатна размаўляць па-беларуску і дзякуючы дапаможніку адлегласць між нашымі краінамі стала крыху меншай.

Яшчэ адзін **падручнік беларускай мовы для замежнікаў** выдадзены ў Маскве. Аўтар, Антон Сомін, — малодшы навуковы супрацоўнік расійскага Нацыянальнага даследчага ўніверсітэта «Вышэйшая школа эканомікі», выкладчык курсаў беларускай мовы, арганізаваных у расійскай сталіцы. Падручнік разам з 35 кнігамі па іншых мовах уваходзіць у серыю саманавучальнікаў выдавецтва «Живой язык».

Кніга складаецца з васямнаццаці ўрокаў, кожны з якіх утрымлівае дыялог на пэўную тэму, міні-слоўнікі, граматычныя, фанетычныя і арфаграфічныя правілы і практыкаванні да іх. Антон Сомін надае значную ўвагу супастаўленню двух варыянтаў літаратурнай нормы (афіцыйная норма і тарашкевіца), прыводзіць у слоўніку «альтэрнатыўныя» варыянты лексікі. У кнізе апісваюцца спрэчкі наконт асобных слоў, што дазваляе ўявіць асаблівасці слоўжывання ў сучаснай сацыялінгвістычнай сітуацыі.

Для беларусаў, якія ўдасканальваюць веданне роднай мовы, выкладчыкі курсаў «Мова Нанова» падрыхтавалі **падручнік «Дваццаць крокаў да беларускай мовы»**. Сярод тэм крокаў-урокаў — «Спадчына», «Спорт», «Інваліднасць» і нават «Лаянка». Чытачоў чакаюць цікавыя тэксты, слоўнікі, граматыка, пытанні да самакантролю.

**Візуальны слоўнік «Наш дом / Our Home»** прывабіць тых, хто цікавіцца не толькі беларускай, але і англійскай мовай, і будзе выдатнай знаходкай для школьнікаў і іх бацькоў. Яркія малюнкі і больш за 2000 слоў і выразаў на абедзвюх мовах дапамагаюць засвоіць лексіку розных тэматычных груп. Наш дом — гэта не толькі мэбля і гаспадарчыя прылады, але таксама свойскія жывёлы, ежа, часткі будынкаў... Аўтары слоўніка — Алена Траццякова і Наталля Зянько, мастак — Даніэла Белая.

У 2016 годзе таксама выйшлі з друку **трыццаць шосты выпуск «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы»** (пад рэдакцыяй Аляксандра Булыкі) і **аднатомны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы»** (пад рэдакцыяй Ігара Капылова). Новае выданне «Тлумачальнага слоўніка» падрыхтаванае з улікам з'яўлення шматлікіх запазычанняў і вяртання значнай колькасці лексічных адзінак, якія яшчэ нядаўна знаходзіліся на перыферыі лексічнай сістэмы. Слоўнік дае не толькі тлумачэнне слоў, але і з'яўляецца нарматыўным даведнікам па арфаграфіі, націску, словазмяненні, словаспалучэнні, па граматычным характарыстыцы.

Шэсць новых кніг для тых, хто цікавіцца беларускай мовай, — важкі набытак нашай культуры. Чытайма!

## МУЛЬТЫМЕДЫЯ-РЭСУРСЫ

Добрая беларуская песня, новы фільм ці мультфільм, агучаны на беларускай мове, — прыемная навіна для кожнага беларускамоўнага чалавека. Да таго ж чуць мову вельмі важна, каб навучыцца на ёй размаўляць. Таму мультымедыяпраекты надзвычай патрэбны тым, хто вывучае мову з нуля, асабліва замежнікам і маленькім дзеткам.

Знаёмства з пісьмовай мовай для кожнага сучаснага дзіцяці распачынаецца кароткай песенькай-азбукай. **Беларускія «абэцэдкі»** можна знайсці ў байнэце — дзякуючы ім дзіця запомніць, як выглядаюць літары, як вымаўляюцца, і, магчыма, упершыню пачуе многія беларускія словы. Для тых, хто ўжо навучыўся чытаць, будуць карысныя **відэа, якія дапамагаюць запомніць назвы колераў, дрэў, птушак, свойскіх жывёл**. Немагчыма ўявіць, каб беларускія дзеці не ведалі беларускіх мультфільмаў: выбар ёсць, але гледачы горача чакаюць навінак! Пра гэта нагадвае нядаўні аншлаг у мінскім кінатэатры «Перамога», дзе дэманстраваўся сямейны фільм «Падынгтан», агучаны па-беларуску.

Для замежнікаў добрая магчымасць атрымаць уяўленне пра беларускую мову — **курс *Easy Belarusian***, у якім агучваюцца фразы з камунікатыўнага мінімуму кожнага турыста, а таксама кароткі тэкст-візітоўка нашай краіны. Важны момант — субцітры на англійскай мове і транскрыпцыя лацінкай. На сайце *EasyLanguages* прадстаўлены відэаўрокі дзясяткаў моў. Два ўрокі беларускай мовы выглядаюць даволі сціпла побач з 60 ўрокамі французскай мовы ці 41 відэа *Easy Polish*, але далучыцца да праекта і выправіць сітуацыю можа кожны ахвотны. «Я хацеў бы ведаць беларускую мову, але элементарна няма рэсурсаў, каб яе вывучаць», — адзначаў адзін з праглядальнікаў відэа. Пра недахоп матэрыялаў па выкладанні беларускай мовы як замежнай часта згадваюць беларусісты з розных краін. Але пазнаёміць замежнікаў з беларускай мовай могуць не толькі лінгвісты, пра што выразна сведчыць праект *EasyLanguages*.

## ГУЛЬНІ

Гульні на беларускай мове не толькі дапамагаюць пашырыць лексічны запас, але і ствараюць атмасферу, у якой вельмі ўтульна размаўляць па-беларуску. Колькі гадоў таму адшукаць «настолкі» на беларускай мове было даволі складана — затое цяпер іх можна без праблем набыць праз інтэрнэт-крамы.

**«Мова»** — найлепшая гульня для тых, хто вучыцца размаўляць па-беларуску. Гульня прапануе пазмагацца за тытул лепшага мовазнаўцы: для перамогі трэба быць кемлівым, хуткім, уважлівым, сканцэнтраваным і, вядома, імкнуцца да пашырэння слоўнікавага запасу ў рэальным жыцці.

Патрапіць у мінулае прапануюць гульні **«1541»** і **«Паўстанцы»**. «Паўстанцы» з'явіліся ў продажы ў 2013 годзе. Яны лічацца першай беларускамоўнай настольнай гульнёй і маюць падабенства да знакамітай «Мафіі». Тут можна стаць вядомай гістарычнай асобай і праз падман ды хітрыкі паўплываць на вынік паўстання 1863 года.

Моўная гульня **«Разам»**, вясёлы **«Гаспадар цмокаў»**, эканамічныя настолкі **«Багач»** і **«Белаполія»** — выбар настольных гульняў на беларускай мове імкліва павялічваецца. Такія праекты з'яўляюцца не толькі ў беларускамоўным асяроддзі. Напрыклад, гульня **«Уся Беларусь»** выдадзена кампаніяй *Dream Makers*, якая мае больш за 30 гандлёвых прадпрыемстваў у розных краінах свету.

— Настольная гульня «Уся Беларусь» выйшла ў продаж у жніўні 2015 года. Яна прадаецца вельмі няблага і сабрала добрыя водгукі, што сведчыць пра запатрабаванасць праекта на айчынным рынку настольных гульняў. Гульня мае рускамоўную і беларускамоўную версіі, якія прадаюцца прыкладна аднолькава. У лютым 2017 года рыхтуецца да выхаду настольная гульня «Кракадзіл» — беларуская версія папулярнай картачнай гульні для вечарынак, — распавёў прадстаўнік кампаніі *Dream Makers* Вадзім Карпіевіч.

Як бачым, беларускамоўныя праекты выклікаюць усё большую цікавасць, прычым іх пералік далёка не абмяжоўваецца гэтым аглядам. Беларуская мова — гэта магчымасць патрапіць у свет беларускай культуры, які паўстае ўсё больш прывабным і гасцінным дзякуючы шматлікім адукацыйным і творчым ініцыятывам.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**ЛІПЕНЬ — самы фестывальны месяц. Адзін «Славянскі базар у Віцебску» прыцягвае ці не ўсю ўвагу патэнцыйных гледачоў. Сярод іх ёсць прадстаўнікі самых розных сфер і відаў працы. Але культура захапляе настолькі, што ўзнікае жаданне пашыраць яе і дапамагаць у стварэнні: рабіць фестывалі і быць іх слухачамі адначасова, чытаць кнігі і дапамагаць іх аднаўляць ці захапляцца літаратурай і паспрабаваць сябе ў творчасці.**

# «Быць часткай свайго народа»

Вось дакладна: не хлебам адзіным, не толькі той працай, якую робіш штодня, хочацца жыць сучаснаму чалавеку. Ён чалавекам пачуваецца менавіта тады, калі дазваляе сабе акунуцца ў вір самых розных эмоцый. Ці не таму ў нас апошнім часам з'яўляецца ўсё больш адметных культурных праектаў і фестываляў, частка іх сталі магчымымі дзякуючы падтрымцы мецэнатаў і наогул іх любові да мастацтва. Што рухае гэтымі людзьмі, якія бяруцца за рэалізацыю самых смелых культурных ініцыятыў? Пра гэта распавядае намеснік старшыні праўлення ААТ «Банк БелВЭБ» Алег Прохарчык.




Алег Прохарчык з вітальным словам на фестывалі «Камяніца».

**— У сферы бізнесу працуюць прагматычныя людзі, але ў Беларусі ўсё больш праектаў, калі бізнес падтрымлівае культурныя ініцыятывы, фестывалі, кніжныя праекты. Чаму?**

— Падтрымка праектаў, якія маюць высокую грамадскую значнасць і закліканы захоўваць і папулярызаваць беларускую гісторыю і культурную спадчыну краіны, — добрая традыцыя Банка БелВЭБ, і мы маем намер прытрымлівацца яе і ў далейшым: наша стратэгія развіцця на 2016 — 2018 гады прадугледжвае, што падтрымка культуры Беларусі з'яўляецца сацыяльнай місіяй банка. Карпаратыўная сацыяльная адказнасць — гэта безумоўны складнік устойлівага развіцця не толькі канкрэтнага бізнесу, але і ўсёй краіны.

**— Па якім прынцыпе ідзе выбар, што падтрымаць?**

— Выбар робім па некалькіх крытэрыях. Адзін з іх — інавацыйнасць. Нам важна рэалізоўваць значныя, запамінальныя праекты, якія будуць цікавыя не толькі банку, напрыклад, з пункту гледжання PR, але і вялікай аўдыторыі. Мы арыентуемся на людзей з рознымі густамі і інтарэсамі.

Агульнанацыянальны праект па выпуску ПЕРШАГА факсімільнага выдання поўнага збору кніг Францішка Скарыны Банк БелВЭБ рэалізуе сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь. Праца пачалася ў снежні 2013 года і завершыцца ў верасні 2017-га. Праект прымеркаваны да 500-годдзя выдання Скарынам першай кнігі для ўсходніх славян, якое будзе адзначацца 6 жніўня 2017 года. Гэта вельмі аб'ёмны па часе і па рэсурсах праект, але я перакананы, што мы давядзём яго да лагічнага завяршэння. У рамках праекта «Факсімільнае выданне кніг Францыска Скарыны» за чатыры гады свет убачаць 20 тамоў факсімільнага перавыдання кніжнай спадчыны першадрукара. Асаблівая каштоўнасць і адначасова складанасць гэтага праекта ў тым, што ў свеце захавалася зусім няшмат асобнікаў кніг Скарыны. Спецыялісты аблічбоўваюць усе магчымыя варыянты, а потым складаецца найболш поўны з усіх існых. Адзінае, што адрознівае сучасныя кнігі ад арыгіналаў, — гэта папера. А вось усё астатняе — шрыфты, мова, размяшчэнне гравюр, нават тыя адзнакі часу, якія з'явіліся на старонках за іх шматвяковую гісторыю, — захавалася. Таксама сучаснае выданне суправаджаюць каментары навукоўцаў, пераклады прадмоў і пасляслоўяў Францыска Скарыны на сучасныя беларускую, рускую і англійскую мовы.

У свой час сумесна з Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам мы рызыкнулі і рэалізавалі выдатную ініцыятыву, арганізаваўшы «Джазавыя вечары з Банкам БелВЭБ». Чатыры гады паспяховага правядзення фестывалю паказалі, што гэтае мерапрыемства ўжо стала добрай традыцыяй Мінска. З году ў год мы імкнёмся падтрымліваць зададзены высокі ўзровень фестывалю. Думаю, што цёплая сямейная атмасфера джазавых вечароў, сусветны ўзровень выканаўцаў робяць фестываль папулярным сярод мінчан і жыхароў іншых гарадоў, якія спецыяльна прыязджаюць на канцэрты. Больш за тое, «Джазавыя вечары з Банкам БелВЭБ» фактычна адкрылі пляцоўку ля Мінскай ратушы для ўсіх гараджан, зрабілі гэтую прастору інтэрактыўнай, еўрапейскай, куды цікава прыйсці, шпацыруючы па горадзе ў выхадны дзень, паслухаць прыемную музыку. Цяпер тэрыторыя вакол ратушы ніколі не пустуе, тут праводзяцца самыя розныя фестывалі і праекты.




Скарына аб'яднаў творцаў і бізнес.

**— Ці з'явіліся ў банку аматары (і знаўцы) джаза, фолк-музыкі, оперы і г. д?**

— Калі б аматараў не было *(Усміхаецца.)*, думаю, наўрад ці б мы падтрымлівалі гэтыя кірункі. Безумоўна, праекты знаходзяць жывы водгук і сярод нашых супрацоўнікаў, якія з задавальненнем наведваюць і джазавыя вечары ля ратушы, і фолк-фэст "Камяніца". Дарэчы, фолк-фэст "Камяніца" банк падтрымлівае з 2010 года. За гэты час праект стаў адной з галоўных падзей для ўсіх, хто цікавіцца беларускай народнай культурай: ад старых традыцый да сучасных інтэрпрэтацый, ад музыкі да рамёстваў і танцаў. Акрамя папулярызацыі беларускай культуры, гэты фестываль аказвае рэальную дапамогу Беларускаму дзяржаўнаму музею народнай архітэктуры і побыту. Усе атрыманыя сродкі ад мерапрыемства паступаюць на рахункі музея для захавання ўнікальнай калекцыі беларускай драўлянай архітэктуры XVIII — XX стагоддзяў. Дзякуючы атрыманым ад фестывалю грошам удалося аднавіць 21 помнік архітэктуры. У цяперашні час рэстаўруюцца новыя аб'екты. Усяго ж за час правядзення фэсту «Камяніца» колькасць наведвальнікаў музея ўзрасла ў шэсць разоў!

**— Ці ёсць у вас асабіста любімы кірунак ці від мастацтва?**

— Мне падабаецца фальклорная музыка, таму па душы фэст «Камяніца». На свяце ў Азярцы пануе асаблівая атмасфера. Заўсёды радуе насычаная праграма з удзелам лепшых беларускіх фолк-калектываў, а таксама замежных гасцей з Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, іншых краін. Прыемна бачыць моладзь і старэйшае пакаленне ў нацыянальных строях, назіраць за тым, як людзі адпачываюць пад беларускую музыку.

**— Чым, на вашу думку, каштоўныя культура і мастацтва, што дае чалавеку эмацыйна?**

— Перш за ўсё, гэта ўсведамленне прыналежнасці сябе, усіх нас, да беларускай культуры і гісторыі, да нашых каранёў: у нас ёсць свая мова, свая культура, мы маем нацыянальную ідэнтычнасць. У наш час, калі ўсё глабалізуецца, стандартызуецца, лічу вельмі важным для кожнага чалавека — быць часткай свайго народа.

**Пытанні задавала**
**Ларыса ЦІМОШЫК**

# ПРАКУРОРЫ ЧЫТАЮЦЬ ВЕРШЫ

У конкурсе чытальнікаў «Славутыя сыны беларускай зямлі», што ладзіўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, узялі ўдзел пракурорскія работнікі сталіцы. Акцыя была прымеркавана да 125-х угодкаў з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Ініцыятарам і ідэйным натхняльнікам чытанняў стаў кіраўнік сталічнай пракуратуры Сяргей Хмарук. Падтрымала конкурс і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ. Канкурсанты чыталі паэтычныя і празаічныя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Максіма Танка, Івана Шамякіна... Высокая сцэнічная культура мастацкага чытання, пранікнёнае, паважлівае стаўленне да роднага слова — усё гэта не магло не ўразіць. У тым ліку і журы, перад якім стаяў няпросты выбар. Што ж у выніку?

У намінацыі «Лепшае выкананне твора пра выбітных людзей беларускай зямлі» пераможцам стаў пракурор аддзела па наглядзе за адпаведнасцю закону судовых рашэнняў па крымінальных справах Аляксандр Кароль, другое месца заняла памочнік пракурора Завадскага раёна сталіцы Алена Крыварот, трэцяе — стажор на пасадзе памочніка пракурора Савецкага раёна сталіцы Яніна Себрукові.

У намінацыі «Лепшае выкананне патрыятычнага твора беларускага аўтара» перамагла стажор на пасадзе памочніка пракурора Партызанскага раёна Вікторыя Тоўстая, другое месца прысуджана памочніку пракурора Кастрычніцкага раёна Ульяне Рудніцкай, трэцяе — старшаму пракурору аддзела кадраў і ідэалагічнай працы Алене Міцюшовай.

У трэцяй намінацыі, якая называлася «Гісторыя і сучаснасць у беларускай прозе», лепшым стаў пракурор арганізацыйна-кантрольнага аддзела пракуратуры г. Мінска Іван Касцян. Ён, дарэчы, атрымаў і прыз глядацкіх сімпатый. На другім месцы — стажор на пасадзе памочніка пракурора Фрунзенскага раёна сталіцы Вольга Кронда, на трэцім — старшы памочнік пракурора Завадскага раёна Вольга Дземідовіч. Лаўрэаты атрымалі дыпломы і падарункі.

***

*Пракуроры чытаюць вершы —*
*Слых наструніла зала сціхотная*
*І варожыць: хто будзе з іх першым,*
*Хто здабудзе з іх славу годную?*

*Словы гучна прарэзваюць цішу,*
*Рэхам звонкім ад сцен адбіваюцца*
*І ўзлятаюць ў паднеб'е вышай —*
*Яркім полымем разгараюцца.*

*Пракуроры чытаюць вершы —*
*Будзяць словам сумленне прыспанае*
*І віхураць пачуццяў бязмежжа —*
*Клічуць ў далеч зіхотна-вясняную.*

*Слова Коласа, Цёткі, Купалы,*
*Багдановіча і Караткевіча*
*Дыяментам жывым зазззяла*
*І паўстала ва ўсёй сваёй веліччы.*

*Гукі прагна злятаюць з вуснаў,*
*Сэрца гордасцю мужнай поўніцца:*
*— Мы ж адна сям'я, беларусы! —*
*Думка ўраз выспявае-родзіцца.*

*Сасняки, валуны і жыта*
*Аздаблялі наш шлях пакрэчасты, —*
*Мы адзінай доляй спавіты,*
*Мы адзіным лёсам заручаны.*

*Дык шануйма роднае слова,*
*Нашу памяць балюча-крывавую,*
*Дзе сіроты былі і ўдовы,*
*Дзе сумленне было абылганае.*

*Чуцен голас кранальна-любы,*
*Льюцца словы мілосна-родныя —*
*Як замова ад погані-згубы,*
*Як зарок шанавання годнасці.*

*Пракуроры чытаюць вершы —*
*Словы просяцца ў сэрца, стукаюць,*
*І, здаецца, з надзеяй, з вераю*
*Іх Сусвет цэлы зараз слухае.*

**Валеры МАКСІМОВІЧ**

**ЖНІВЕНЬ быў ураджайны на эмоцыі, пачуцці. Для кожнага паасобку і для ўсіх разам, калі ў свеце гучала Беларусь дзякуючы нашым алімпійцам. І не толькі ў алімпійскім «жніве» справа, а яшчэ і ў магчымасці захапляцца прыгажосцю людзей і імгненняў, у якіх таксама ёсць мастацтва.**

# Меліціна СТАНЮТА:

# «СІЛЫ ЧЭРПАЛА Ў КУЛЬТУРЫ»

**За гэтай дзяўчынай — некалькі пакаленняў творцаў. Ад кожнага яна нешта ўзяла — гэта адчуваецца па нашай размове. Калі прапрапрадзядуля — мастак, прапрабабуля — легендарная актрыса, дзядуля — вядомы літаратуразнаўца, бацькі — журналісты, то, здавалася б, няма іншага шляху, як быць іх годным працягам і прыйсці ў творчасць. Але яна пайшла шляхам уласных дасягненняў: за 20-гадовую спартыўную кар'еру гэтая дзяўчына атрымала шмат узнагарод, на самым высокім сусветным узроўні прадстаўляла нашу краіну ў гімнастычных спаборніцтвах, увайшла ў эліту мастацкай гімнастыкі. За яе з трымценнем хварэлі на алімпіядзе ў Рыа прыхільнікі не толькі спорту дзеля ўзнагарод, але і тыя, хто неабыякавы да вытанчанасці, якая ўласцівая мастацкай гімнастыцы. І вось напрыканцы года Меліціна Станюта абвясціла пра заканчэнне спартыўнай кар'еры. Але, можа быць, гэта толькі пачатак новай? Пра гэта мы пацікавіліся ў самой Лэдзі вытанчанасць — Меліціны Станюты.**

**— Вашы выступленні былі падобныя да маленькіх спектакляў, у якіх зіхацела ўся гама пачуццяў: страсць, засяроджанасць, драма… Кранала здольнасць ствараць вобраз, а не толькі выконваць бездакорна спартыўныя элементы. Нездарма ж гэты від гімнастыкі называецца мастацкім.**

— Трэба, каб і мастацкая, і спартыўная часткі спалучаліся, што вельмі складана, і за гэтым стаіць вельмі шмат працы. Самае складанае ў мастацкай гімнастыцы на працягу цэлага года — скласці практыкаванне. Спачатку падабраць музыку, якая б пасавала табе і падабалася многім, што амаль неверагодна. Тую музыку, у якой бы сябе добра адчувала, якая б паказвала адну з гронак тваёй душы, эмацыянальнага стану. Потым вельмі дакладна ў адпаведнасці з музыкай падабраць кожны рух. Калі дзяўчынка маленькая, то яна цалкам разлічвае на трэнера-складальніка, які робіць усё згодна са сваім меркаваннем. Калі сталееш, то сама нешта прапануеш, працуеш разам са складальнікам. І гэта насамрэч праява вялікай працы, вялікага таленту, вялікага мастацтва: за хвіліну і трыццаць секунд гледачу трэба паказаць і нейкую гісторыю ў руках, вобраз і пры гэтым яшчэ ўставіць і потым выканаць вялікую колькасць складаных элементаў.

**— У вобразаў, што вы стваралі, заўсёды адчувалася індывідуальнасць. Але ці ёсць у гэтым унёсак, закладзены сям'ёй?**

— Безумоўна, гены сваё бяруць. Але ў гімнастыцы вельмі цэніцца асоба. Таму што трэнер адштурхоўваецца ад таго, якая гімнастка, што ёй па душы, што ёй падыходзіць згодна з характарам. Плюс нейкая доля выхавання. Для мяне было важна ў стварэнні нейкага вобраза адчуваць, што ён мой, а гэтага цяжка было дамагчыся без непасрэднага ўдзелу ў працэсе працы. Таму мы з разам з трэнерам Ірынай Ляпарскай вельмі адказна падыходзілі да падбору музыкі і элементаў. Я заўсёды выходзіла і старалася працаваць на ўсе 100 працэнтаў, каб прынесці задавальненне гледачам, якія прыйшлі за мяне хварэць. Заўсёды змагалася да канца, і калі нешта не атрымлівалася, то яны гэта таксама бачылі. Але гледачы ўсё ўспрымаюць больш на эмацыянальным узроўні. Эмоцыі, якія я хацела падарыць, думаю, даходзілі, таму ў людзей заставаліся яркія ўражанні.

**— Складаны від спорту, таму што глядач глядзіць на вытанчанасць ліній, на прыгажосць, а суддзі бачаць штосьці яшчэ. Мастацтва ў гэтым сэнсе больш сумленнае, ідзе ад эмоцый, і якасць гэтых эмоцый вызначае адзнаку: добра ці не.**

— Але калі разглядаць такое мастацтва як балет, дзе таксама ёсць свайго роду спаборніцтвы-конкурсы, то і там складаная адзнака, улічваецца і тэхніка, і лініі. Паўсюль ёсць свае правілы. Магчыма, да мастацтва глядач ставіцца не так агрэсіўна, як да спорту: усім спадабалася, але дзяўчынка не атрымала медаль… Усе віды спорту, якія не на метры, не на секунды, суб'ектыўныя. Некаму падабаецца, некаму — не. Гледачу ж не даюць звод правіл, якія ёсць у мастацкай гімнастыцы, бальных танцах ці фігурным катанні. Хіба што агульныя патрабаванні ведаюць. Ва ўсіх суб'ектыўных відах спорту меркаванне гледача будзе разыходзіцца з адзнакай суддзяў. Таму што ў спорце заўсёды барацьба і нехта за некага хварэе. У тэатр ці на мастацкую выстаўку не прыходзяць, каб за некага хварэць.

Самае блізкае з мастацтваў да нашага віду спорту — харэаграфія. Там і выканальніцкая, і пастановачная часткі спалучаюцца. Таму штосьці складаць як харэограф я, магчыма, змагла б. Прынамсі, у мяне атрымалася скласці нумар на фестываль Башмета. Гэта быў цікавы досвед для мяне — выступаць пад акадэмічную музыку. Спадзяюся, што будзе магчымасць паўтарыць, калі не на фестывалі Башмета, то на іншым, ці ўдзельнічаць у нейкіх шоу. Можа быць, так сябе і рэалізую далей.



**— Але ў вас былі спробы ўзгадаць Стэфанію Станюту ў тэатры. Вы ж яе яшчэ заспелі? Яе акцёрскія работы вас натхнялі?**

— Я яе амаль не памятаю, была вельмі маленькая. Калі нейкая сувязь была, то на генетычным узроўні. Усё-такі яна валодала акцёрскім майстэрствам. Я ж спартсменка, эмоцыі, якія з'яўляюцца ў гімнастыцы, — наступная прыступка пасля таго, як навучылася валодаць целам, прадметам. Я была ўжо даволі дарослая, калі навучылася працаваць са сваім унутраным станам. Але па-свойму. Нават калі ўдзельнічала ў тэатральнай праграме, разумела, што я не актрыса. Мне ўжо шмат гадоў, і я далёкая ад таго, каб асвойваць акцёрскую прафесію, пачынаць вучыцца, таму што не змагу дасягнуць патрэбнага ўзроўню. І не магу сказаць, што гэта маё. Але акцёрская ігра можа быць рознай: у рэкламе (напрыклад, мы здымаліся ў рэкламе пітной вады) ці ў новай фотасесіі са складаным вобразам. Вось туды я магу накіраваць сябе. А на сцэне драматычнага тэатра мяне не ўбачаць.

**— Вас часта можна бачыць у тэатры…**

— Але не таму, што ў мяне прабабуля актрыса, гэта яшчэ не значыць, што чалавеку па жыцці наканавана хадзіць у тэатр. Я напраўду люблю тэатр. Лепшы спосаб правесці вечар — гэта схадзіць на добры спектакль, пабачыць цікавую пастаноўку. Тэатр мяне натхняў, натхняе і будзе натхняць.

**— Ёсць любімы спектакль ці любімы тэатр?**

— Купалаўскі, канешне, таксама Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі. Ёсць любімыя спектаклі: вельмі спадабаўся «Самотны Захад», хадзіла на яго два разы. Цудоўны спектакль «Пінская шляхта», але глядзела яго даволі даўно, думаю, трэба яшчэ раз схадзіць. Вельмі радуюся, што паспела ў свой час патрапіць на спектакль «Піць, пець, плакаць», які ўжо не ідзе. «Гендэльбах» у Купалаўскім цудоўны. А якія шыкоўныя абедзве «Чайкі», што ідуць у драматычных тэатрах, у Мінску. У тэатры я захапляюся і самой пастаноўкай, і ігрой акцёраў. Ніякіх паралеляў не праводжу, не філасофствую, не аналізую, у тэатры я глядач, якому патрэбна наталенне.

**— У тэатры бываеце разам з бацькамі. Гэта сямейная традыцыя?**

— Калі атрымлівалася з бацькамі, было цудоўна. Але насамрэч я часцей хадзіла ў тэатр адна. Чаму? Таму што я часта з'язджала, а бацькі, калі мяне не было, хадзілі на прэм'еру раней за мяне. Я прыязджала са спаборніцтваў і ішла глядзець тое, што яны раілі.

**— Якія кнігі чытаць, таксама яны раілі? Кажуць, чытанне цяпер не надта моднае сярод моладзі, ды сярод спартсменаў. Міф?**

— Не арыентуюся на нейкую моду, люблю чытаць. Мне з дзяцінства бацькі чыталі перад сном, улюбілі ў кнігі. Любая добрая кніга можа дапамагчы, калі яна цікавая і добра напісаная. Ты пагружаешся ў той свет і пазбаўляешся нейкіх праблем. Мне часта траплялі добрыя кнігі, дзякуй бацькам, якія іх раілі.

**— Ёсць відэазапіс, дзе вы чытаеце верш Мележа. Самі яго выбралі?**

— Гэта быў асобны праект, мне далі 10 вершаў на выбар, я спынілася на вершы Івана Мележа «Жураўлі». Адна з цудоўных кніг, якую мне прачыталі бацькі ў дзяцінстве, — «Беларусь у фантастычных апавяданнях». Нядаўна перачытала яе: беларускія паданні вельмі дзіўныя, у іх асаблівы свет, які мне вельмі падабаецца. «Чорны замак Альшанскі» таксама перачытала, калі рыхтавалася да курсаў «Мова нанова», дзе была госцем: ведаю беларускую мову, але твор трэба было ўзнавіць у памяці.

Гімнастыка — від спорту, дзе аддаеш свае эмоцыі цалкам, і трэба нечым сябе сілкаваць. Каб не ўзнікла пустэча ў душы, я запаўняла сябе тым, што чэрпала з культуры — кніг, у тэатры, з харэаграфічных пастановак, з выставак.

**— Ваша рашэнне закончыць спартыўную кар'еру не было спантанным?**

— Саспявала да яго паступова. Усё ж 20 гадоў — гэта вельмі шмат. Я раней не стамлялася, а цяпер стала стамляцца. Па-другое, траўмы ўсё ж нагадваюць пра сябе. Калі я пайшла ў адпачынак пасля алімпійскіх гульняў, балела стапа і сцягно. Раней я адпачывала 10 дзён, нічога не рабіла, усё неяк аднаўлялася. Трэцяе: гэта быў вельмі важны год у маёй спартыўнай кар'еры, я сябе цалкам аддала, выціскала з самых патаемных куточкаў і сілы, і эмоцыі. За гэты час, калі ўжо не было сур'ёзных стартаў, і траўмы не прайшлі, і натхнення не стала больш. Плюс узрост. Зразумела, што на наступныя Алімпійскія гульні дакладна не паеду. І правілы ў гімнастыцы мяняюцца, зноў вялікая праца складаць практыкаванні і імкнуцца іх адпрацаваць. Ніколі гэтага не казала, але я стамілася цярпець боль, абмяжоўваць сябе па жыцці, не мець дастаткова часу, каб праводзіць яго з блізкімі, сябрамі.

**— Але ж меркавалі, дзе сябе знайсці ў новым жыцці? У вас жа ёсць прафесія згодна з адукацыяй.**

— У настаўнікі фізкультуры я не пайду. А ідэй у мяне шмат: магчыма, тэлебачанне, аўтарская праграма пра спартсменаў — чаму б не? Можа быць, гэта будуць арганізацыйна-спартыўныя пытанні. Ці здарыцца шчаслівы выпадак, і адкрыю пад сваім іменем нешта — не толькі краму, а тое, што будзе звязана з прыгажосцю, са здаровым ладам жыцця, са спортам. Трэнерства? Так, у мяне дзякуючы гімнастыцы ёсць у галаве і гэтыя варыянт працы. Але я пашукаю сябе ў нечым іншым.

Марыя АСІПЕНКА

**ВЕРАСЕНЬ: абуджаюцца веды. Гэта справядліва для розных пакаленняў, таму што Дзень ведаў для дзяцей і моладзі падтрымлівае Дзень беларускага пісьменства, агульнанацыянальнае свята. Імкненне да ведаў, узгадаванае продкамі, што неслі святло, жаданне ісці наперад і шукаць, адкрываць новае, заклалі ці не галоўнае для сучаснасці: разуменне, што інтэлектуальны патэнцыял — галоўны скарб, які не знікае і не губляе сваіх вартасцей.**



Фота Кастуся Дробава.

# ПАДУМАЕМ РАЗАМ

Прыкмета часу: інтэлект, мысленне, веды выходзяць за межы асобных кабінетаў, кватэр ці кухань. Год, які сыходзіць, адзначыўся вялікай колькасцю ініцыятыў, калі людзі злучаліся, каб нешта разам абдумаць, падзяліцца развагамі з іншымі, пра штосьці паспрачацца ў пошуках ісціны. Так, па сутнасці, кожны чалавек мысляр па жыцці ў той ці іншай ступені, бо вызначыцца са сваім шляхам — гэта ўжо асэнсоўваць сябе ў свеце, у грамадстве. Але ў беларускім грамадстве апошнім часам назіраецца імкненне быць разам, мысліць разам (гэта не значыць аднолькава), думаць разам пра тое, што ёсць мы як народ і як нацыя, дзе пралягае гэтая мяжа. Ёсць жаданне мысліць Беларусь: якая яна была ў розныя эпохі, якая яна цяпер. Так засяроджана людзі звычайна абдумваюць тое, што любяць. А калі любіш, то хочаш глыбока разумець. І бачыць перспектыву для развіцця свайго пачуцця.

Гэтага хочуць людзі сталыя і моладзь, што асабліва каштоўнае. Моладзь адкрывае для сябе — і актыўна ўдзельнічае — тыдні беларускага мыслення і фэсты філасофіі, цікавіцца існаваннем розных дыскусійных клубаў, якія нават становяцца моднымі інтэлектуальнымі пляцоўкамі. Гэта ўжо і трэнд: інтэлектуальны клуб адкрывае ў Беларусі нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч, якая абяцае сустрэчы не толькі з айчыннымі мыслярамі, але і гасцямі з іншых краін. Яе клуб закрыты, мае абмежаванне па колькасці прысутных — своеасаблівае месца сустрэч для «правераных» інтэлектуалаў, творчай і навуковай эліты. Але калі меркаваць па тых, хто вельмі жадаў і не патрапіў на першае пасяджэнне, то інтэлігенцыя наша (гэта зусім не малы слой беларускага грамадства) прагне зносінаў.

Гэта тая ж асаблівасць, якая ў Беларусі мела плён. Калі інтэлектуалы пачатку мінулага стагоддзя — у асноўным творчая эліта — аб'ядналіся ў думках і памкненнях, яны здолелі утварыць рух, дзякуючы якому здзейснілася іх мара пра Беларусь. Фактычна яны, нашы класікі, — Купала, Колас, Багдановіч і іншыя — былі не толькі літаратарамі, але і сапраўднымі мыслярамі, іх развагі былі дзейснымі, яны нарадзілі краіну. Спачатку ў марах, але жыццё даказвае: калі думкі настроены правільна і на тое, у чым сапраўды ёсць сэнс, то мары матэрыялізуюцца.

І пасля было шмат доказаў гэтаму, калі суполкі мастакоў і маладых літаратараў (як тыя ж «Тутэйшыя» і «Талака») рабілі дзяржаўную справу не толькі сваімі творамі, але і думкамі. Творцы — вельмі неабыякавыя людзі, носьбіты пасіянарнай энергіі, якая разыходзіцца кругамі, ахопліваючы большую тэрыторыю. У нас творцаў шмат, у нас шмат навуковай (гуманітарнай і тэхнічнай) эліты, якая стварае кругі. І кругоў шмат, таму яны часам перакрываюць адзін аднаго, і здаецца, што на паверхні ціша. Але хвалі могуць складвацца, узмацняцца, калі каменьчыкі падаюць сінхронна ў адну кропку. Кропка ёсць: Беларусь, вакол якой у асноўным канцэнтруюцца думкі. І гэта вельмі адчувалася чамусьці ў апошні год, можа, якраз таму, што «Культура — гэта тое, што нас аб'ядноўвае».

Таму хацелася б, каб яшчэ адной інтэлектуальнай пляцоўкай была і газета творчай інтэлігенцыі, фактычна яна гэта і рабіла цягам сваёй гісторыі: не толькі ўтварала кругі сама, але і сінхранізавала стваральныя памкненні.

Падумаем пра гэта разам: ёсць, дзеля чаго.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# РАБОТА НАД ПАМЫЛКАМІ

## Як школьніца знаходзіць мастацтвазнаўчыя хібы

**З мінскай школьніцай Марыяй Дзенісюк і яе маці мы сустрэліся ва ўтульным кафэ. Маша зачаравана чытала кнігу Юрыя Барысава «Дыпламатыя Людовіка XIV», і спыніць яе было вельмі цяжка. Дзяўчынцы падабаецца гісторыя, а калі дакладней — гісторыя еўрапейскіх манархаў. Менавіта гэтая зацікаўленасць дала Машы веды, якія пасля дапамаглі знайсці памылкі мастацтвазнаўцаў і, больш за тое, выправіць іх. Пра беларускую школьніцу ведаюць ужо ў Версалі, Эрмітажы. Дзяўчынка змагла вызначыць гераіню аднаго з партрэтаў (а гэта была дацкая прынцэса), а пасля знайшла памылку ў назве версальскага партрэта. Спадзяёмся, незвычайны талент Машы не пакінуць без увагі.**

**— Марыя, вы знайшлі столькі памылак, зробленых мастацтвазнаўцамі і атрыбутарамі. Дзе атрымалі ўсе гэтыя веды?**

— Я шмат чытаю — розныя крыніцы: інтэрнэт, кнігі, біяграфіі манархаў і прадстаўнікоў вышэйшай знаці. Люблю разглядаць генеалогіі і складаю іх сама, раблю спісы. Карыстаюся адмысловымі сайтамі, чытаю Вікіпедыю (больш за ўсё мне падабаюцца нямецкая і англійская яе версіі — там больш дакладная і шырокая інфармацыя). З кожнага выдання назапашваю штосьці важнае і цікавае. З таго, што запомнілася, — кніга пра Кацярыну II і яе палітыку, сувязі каралевы з Германіяй, яе ўспаміны пра людзей нямецкага дваранства...

**— Калі вы зацікавіліся гісторыяй еўрапейскіх манархаў? Чым так прыцягнула гэтая эпоха?**

— Пачалося ўсё дзесьці ў канцы 2013-га. Перыяд гэты спадабаўся, напэўна, таму, што менавіта з яго пачала ўсё вывучаць. Больш за ўсё вабіць XVII ст., 1670 — 80-я гады. Пачалося з біяграфіі Карла II Іспанскага: шукала партрэты яго і яго жонкі, па ланцужку — і яе сям'і. Я заўважыла, што Карл быў падобны да сваіх продкаў па лініі маці, пачала даследаваць яго генеалогію. Адсюль цікавасць да генеалогіі наогул. Вывучаю тых людзей, якія яшчэ мне не вельмі вядомыя. Напрыклад, пра Людовіка XIV ведаюць шмат, таму вывучаць яго біяграфію не спяшалася.



*Марыя Дзенісюк.*

**— Ведаю, што ў вас вялікая калекцыя партрэтаў, якія вы захоўваеце на камп'ютары. Ці ёсць сярод іх любімыя?**

— Няма такога, каб якісьці партрэт з калекцыі падабаўся вельмі, няма любімага. Хутчэй, нейкая частка ў карціне можа падабацца больш, а нейкая — менш. Я люблю вывучаць дэталі: заўсёды фіксую, вылучаю, што ўласціва таму ці іншаму часу. Гэта дапамагае адрозніваць карціны на аўкцыёнах. Касцюмы я фіксую амаль адразу, таму, калі бачу партрэт, магу зразумець, да якой эпохі ён належыць. Мяне вельмі абурае, калі персанажаў падпісваюць не іх імёнамі.

**— Часта здараецца такое, што знаходзіце памылкі?**

— Калі я заўважыла памылку на карціне з дацкай прынцэсай Ульрыкай Элеанорай на аўкцыёне *Bonhams*, адразу ж напісала ім, даслала свае аргументы. Праз месяц карціну прадалі, а мае пажаданні былі ўлічаныя — пра гэта я даведалася пасля, бо за лёсам партрэта не сачыла. Пасля я ідэнтыфікавала ў Версалі партрэт ландграфа Вільгельма V Гесэн-Касельскага, яшчэ пісала ў Эрмітаж — зараз куратар займаецца гэтай карцінай. Памылкі знаходжу даволі часта — амаль кожны раз, калі выходжу на аўкцыёны.

**— Як думаеце, чаму такое адбываецца?**

— Мне здаецца, атрыбутары на аўкцыёнах валодаюць не ўсімі патрэбнымі ведамі, дастатковай кваліфікацыяй, каб знайсці памылку. Яшчэ можна зразумець, калі карціна падпісаная як «Партрэт невядомага», але калі партрэт аднаго чалавека падпісаны імем іншага, які ў тую эпоху нават не жыў і зусім не падобны да яго, гэта непрымальна! Акрамя герояў партрэтаў, я атрыбутую яшчэ і мастакоў. Бывае, што карціна на аўкцыёне напісаная мастаком, які ўжо на той час сышоў. Быў выпадак, калі твор 60-х гг. XVII ст. прыпісалі Ван Дэйку, які памёр у 40-я.

**— Мастацтвам больш маладым, напрыклад, XX стагоддзя, цікавіцеся?**

— Думаю, сучаснае мастацтва вяртаецца ў мінулае, шмат перайме, у драўным сэнсе слова. У сучасным мастацтве я знаходжу шмат абстракцыі, але мала эстэтыкі. Пра тое ж сведчыць і выпадак, калі хтосьці выставіў на аўкцыён карціну, намаляваную на камп'ютары без асаблівых уменняў, і на гэты твор знайшліся пакупнікі. Сучаснае мастацтва ператварылася ў прымітыўную рэч: лёгка перамаляваць, мала хто падмену заўважыць.

**— А ці ёсць які-небудзь блізкі вам сучасны мастак?**

— Даспадобы некаторыя з сюррэалістаў, у дзяцінстве ў мяне была кніга, разглядала іх карціны. Асабліва падабаліся творы Далі. Калі разглядаю яго карціны, узгадваю песні Барыса Грабеншчыкова. У іх ёсць штосьці такое, што можна было б праілюстраваць творамі Сальвадора Далі. У гэтага мастака ёсць перайманне сну, заўважнае і ў фільме «Андалузскі пёс». У песнях Грабеншчыкова ўсё гэтае таксама ёсць.

**— Вы вельмі любіце партрэты, але зараз іх месца займаюць фотаздымкі. Як лічыце, што больш прэтэндуе на аб'ектыўнасць?**

— Зараз пішуць партрэты авангардныя, большасць з такіх твораў абстрактныя. Мастак Максім Кантар мяркуе, што калі чалавек будучага адкрые альбом з партрэтамі ўсіх часоў, то добрых партрэтаў сучаснікаў там не будзе. Бо ў фатаграфіі добра перадаць сапраўдную эмоцыю не атрымліваецца.

Падчас размовы склалася ўражанне, што Машу чымсьці акрамя гісторыі і мастацтва XVII ст. зацікавіць немагчыма. Але ў той час, пакуль многія кажуць пра (ра)згубленасць маладога пакалення, Марыя атрымлівае асалоду ад веды ад кніг і твораў выяўленчага мастацтва, нават можа паспрачацца са спецыялістамі. Ці гэта не прыклад таго, што новае пакаленне ратаваць не трэба?

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

**КАСТРЫЧНІК можна назваць музычным месяцам: у першы дзень кастрычніка адзначаецца Міжнародны дзень музыкі, таксама ў гэты час у Беларусі можна пачуць самыя яркія творы ў выкананні вядомых артыстаў, якія да нас завітваюць на Міжнародны фестываль Юрыя Башмета і Беларускую музычную восень.**

# Адзінае апірышча — уласнае «я»

## Сяргей Бадалаў пра новыя кірункі ў музыцы і самую значную прэм'еру ў жыцці

**Сёлета на фестывалі Башмета адбылася прэм'ера аркестравага сачынення Сяргея Бадалава. Яна прагучала ў адным канцэрце з творамі легенд — Сяргея Пракоф'ева і Валянціна Сільвестрава. Для маладога кампазітара гэта несумненны поспех, абумоўлены яго папярэднім творчым шляхам.**

### АКАДЭМІЧНАЕ МАСТАЦТВА ЯК НАВУКА

**— У 2012 вы казалі: «Сёння кампазітар — нармальная прафесія, такая ж, як усе іншыя, адзін са спосабаў сацыялізацыі». Ці не змянілася з тых часоў ваша меркаванне? Якім бачыце прызначэнне "сур'ёзнага" кампазітара ў сучаснай Беларусі?**

— За чатыры гады ў маім жыцці адбылася не адна падзея, што паўплывала на самаадчуванне і мэты. За гэты час мне давялося павучыцца ў чатырох музычных ВНУ — у Беларусі, Польшчы і Германіі. Шмат у чым з-за гэтага складана казаць пра месца сучаснага акадэмічнага кампазітара менавіта ў нашай краіне. Але, мне здаецца, ва ўсім свеце яно паступова страчвае грамадскую значнасць і статус. У Беларусі ж цікавасць да акадэмічнай сучаснай і класічнай музыкі сама па сабе даволі невялікая, сітуацыю пагаршаюць яшчэ і экстрэмальныя фінансавыя ўмовы.

Сучаснае акадэмічнае мастацтва я параўноўваю з фундаментальнай навукай, гэта значыць, нечым непрыкладным па сутнасці, дзе найважнейшая мэта — сам працэс пошуку. Што шукаць і да чаго імкнуцца? Кожны вырашае сам. Але мой ідэалістычны адказ — трэба гаварыць толькі ад сябе. І, як індывідуальнасць, якая жыве сёння, у сваёй музыцы даваць водгук на тое, што цябе рэальна хвалюе: ці гэта асабістыя перажыванні, ці пазачасавыя філасофскія катэгорыі. Я кажу пра чалавека, які шмат пра што задумваецца і сапраўды звязаны з рэчаіснасцю. Таму часам можа здарыцца, што яго музыка не вельмі лашчыць слых. Нічога дрэннага ў гэтым няма.

**— Чаму вы пачалі займацца музыкай і кампазіцыяй? З-за жадання бацькоў, каб дзіця было «пры справе»? Або ў сям'і былі музычныя традыцыі?**

— Я памятаю, што ўсвядомленае жаданне займацца музыкай з'явілася з шасці гадоў, калі я ўпершыню ўбачыў, як суседка маёй бабулі грае на фартэпіяна. Па сямейных абставінах у музычную школу мяне аддалі даволі позна, у 9 гадоў. Тады ж мне купілі піяніна. Праз месяц заняткаў на інструменце настаўніца дапамагла запісаць маю першую п'есу. Я думаю, чаму ў мяне ўзнікла жаданне сачыняць, і прыйшоў да высновы, што, напэўна, гэта было спосабам вылучыцца, вынікам дзіцячага імкнення да пахвалы.

**— Пасля трэцяга курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі вы працягнулі вучыцца ў Польшчы і Германіі. Па якіх прычынах? Там лепшая музычная адукацыя?**

— У Беларусі склалася ўнікальная сістэма ступеньчатай адукацыі: музычная школа, вучылішча, кансерваторыя. Гэта дае больш часу для грунтоўнай падрыхтоўкі. На Захадзе пра падобнае я не чуў. Але тэхнічнае абсталяванне еўрапейскіх музычных ВНУ вышэйшае. Існуе вялікая колькасць фестываляў, майстар-класаў. Дзякуючы адсутнасці межаў, наведваць іх можна не толькі ў краіне навучання. У выніку студэнты маюць нашмат больш магчымасцей у плане інтэграцыі.

### МУЗЫЧНАЕ ШОУ

**— Ці ўплываюць на вас як на кампазітара творчасць папярэднікаў, больш даўнія музычныя традыцыі? Або вы прэтэндуеце на тое, каб ствараць нешта абсалютна новае?**

— Сёння казаць пра стварэнне новага кірунку ў акадэмічнай музыцы, думаю, не зусім адэкватна. Каб патлумачыць, звярнуся да гісторыі. З прыходам эры постмадэрнізму і пачаткам так званай другой хвалі авангарду ў 60-я сітуацыя ў музыцы ўскладнілася настолькі, што яе можна назваць шокавай для мастакоў таго часу. Тым не менш у малады кампазітараў усё яшчэ існавалі больш ці менш відавочныя варыянты, да каго далучыцца. Напрыклад, стаць «спектралістам», або «некласіцыстам», альбо супрацьпаставіць сябе гісторыі іншым чынам. Сёння няма нейкіх безумоўных аўтарытэтаў або жанраў, якія можна развіваць. Няма і жадання супрацьпастаўляць сябе мінуламу, як кампазітары 60-х. У сувязі з інфармацыйным паскарэннем з пачатку 2000-х сітуацыя зрабілася настолькі заблытанай, што адзінае апірышча для сучаснага творцы, па-мойму, — уласная індывідуальнасць. І для мяне пошук індывідуальнага ў музыцы (а не стварэнне нейкага новага стылю) — адна з першарадных задач.

**— Як атрымалася, што вам замовілі скласці твор для прэм'еры на фестывалі Башмета?**

— Гэты заказ стаў для мяне нечаканым і пазапланавым. Мой сябра, кампазітар Валерый Воранаў, сказаў, што арганізатары шукаюць некага новага для стварэння аркестравага твора і што размова ішла ў тым ліку і пра мяне. Неўзабаве я даслаў партфоліа, і была абраная мая кандыдатура.

**— Ці была прэм'ера на фестывалі Башмета ў мінскай філармоніі самай значнай у вашай кар'еры?**

— Калі гаварыць пра маштабы, у 2015 годзе адбылася прэм'ера майго спектакля «Асвея» на адным з найбуйнейшых у Еўропе фестываляў кінетычнага мастацтва ў Лодзі. Гэта было 25-хвілiннае прадстаўленне, заснаванае на беларускіх народных песнях, якія выконваліся з жывым аркестрам. Акрамя музычнай часткі, прадстаўленне ўключала ў сябе відэапраекцыі, харэаграфію, святло. Усё ладзілася ў гістарычным цэнтры горада, і спатрэбілася будаваць дзве сцэны. «Асвея» стала адным з самых рэсурсаёмістых праектаў у праграме фестывалю, і на працягу трох дзён спектакль быў пастаўлены 23 разы, ахапіўшы рэкордныя 550 тысяч гледачоў.

**— Адносна свайго прадстаўлення «Асвея» вы казалі, што хацелі зрабіць шоу, падобнае да шоу поп-выканаўцаў. Гэта азначае, што вы ставіце перад сабой мэту канкурыраваць з поп-музыкай у папулярнасці, сіле ўздзеяння?**

— Адна з задач, якую я ставіў перад сабой у працы над «Асвеяй», — праверыць, як будзе ўздзейнічаць на людзей акадэмічная музыка, калі я прадстаўлю яе ў максімальна прывабнай форме, як гэта робіцца ў яскравых шоу. Тым не менш наўрад ці гэта была канкурэнцыя з попмузыкай, хутчэй, спроба прыцягнуць увагу да музыкі, для большасці «нефарматнай», да таго, што не транслюецца па камерцыйным радыё.



*Сяргей Бадалаў.*

### АДЧУВАННЕ КАМПАЗІТАРСКАГА ДОМА

**— Вы з юнага ўзросту складаеце творы для розных інструментаў, выкарыстоўваеце элементы народнай і электроннай музыкі, ёсць у вас і авангардная праца. Як атрымалася дамагчыся такой шырыні ахопу?**

— Мяне заўсёды вучылі, што разнастайнасць тваіх твораў — гэта перавага. І на працягу вельмі доўгага часу я хацеў быць розным — як Стравінскі, а лепей як прадзюсар, які ўсё разлічвае і перабірае матэрыял у пошуках хітоў. У выніку ў мяне ёсць музыка, якая быццам створана рознымі кампазітарамі. На дадзеным этапе я перакананы, што змагу «спрадзюсіраваць» амаль усё, што пажадаю. У той жа час разумею, што, каб рабіць еўрапейскую кар'еру, трэба прыняць некаторыя правілы гульні. І ў першую чаргу — засяродзіцца на стварэнні сваёй, унікальнай музычнай мовы. "Толькі мае" элементы непазбежна з'яўляліся ў творах і раней, але былі бачныя, хутчэй, мне адн аму. Бягучая мэта — зрабіць бескампрамісны і безумоўны «канцэнтрат» таго, чым адрозніваюся менавіта я.

**— Няма адчування, што вашай творчасцю больш цікавяцца за мяжой, чым на Радзіме?**

— Калі жывеш за мяжой, звычайна значную частку праектаў робіш там. Але падчас фестывалю Башмета ў Мінску цікавасць да маёй працы была, і, як мне здалося, немалая. За мяжой, хаця б з-за імя, я застаюся іншаземцам, а ў Мінску я ўпершыню адчуў сябе дома як кампазітар.

**— Як вы лічыце, што патрэбна зрабіць, каб падняць прэстыж айчыннай акадэмічнай музыкі?**

— Як расказвала мая прафесар Галіна Гарэлава, адночы выдатная жанчынакампазітар Соф'я Губайдуліна параўнала элітарнае мастацтва з «дыханнем нацыі» і казала, што калі яго знішчыць, то загіне і народ. Я думаю, гэта сапраўды так. Для мяне цалкам відавочна, што сучаснае мастацтва, і музыка ў тым ліку, павінны атрымліваць падтрымку на ўзроўні дзяржавы. Гэта не толькі пытанне нацыянальнага прэстыжу, але і духоўнае падсілкоўванне для інтэлігенцыі любой суверэннай краіны.

**— Ці маеце намер працягваць тварыць у рэчышчы сінтэтычнага мастацтва?**

— Так, безумоўна. Для мяне гэта не проста абстрактная ідэя, а рэальная патрэба — выказвацца сінтэтычна, прыцягваючы не толькі музыку. Я гэта вельмі люблю, і мне не хацелася б гэтым ахвяраваць, проста каб адпавядаць нейкаму звыкламу фармату. У той жа час гэта не азначае, што я збіраюся адмовіцца ад «чыстай» кампазіцыі, якой прысвяціў 19 год жыцця.

### БУДУЧЫНЯ АЙЧЫННАЙ МУЗЫКІ

**— Па вашым меркаванні, ці дастаткова ў Беларусі маладых адораных кампазітараў, каб можна было казаць пра паспяховы працяг развіцця айчыннай сур'ёзнай музыкі?**

— Сярод прадстаўнікоў майго пакалення ў Беларусі ёсць некалькі кампазітараў, за творчасцю якіх я стараюся сачыць. Я ўпэнены, што і ў Акадэміі музыкі ёсць цікавыя студэнты, хаця з таго, што распавядалі мне прафесары, можна зрабіць выснову, што агульны ўзровень абітурыентаў на спецыяльнасці прыкметна знізіўся ў апошні час.

**— У будучыні збіраецеся большасць часу жыць і працаваць у Беларусі?**

— Я вырас у гэтай краіне, і Беларусь — мая радзіма. Мару, што калі-небудзь змагу вярнуцца і спакойна працягнуць працу тут. Але альтруістычна губляць энергію і з нечым змагацца для мяне пакуль не час. Я ведаю, што зараз варта добра папрацаваць у першую чаргу над сабой. Калі стану кімсьці «там», мне значна лягчэй будзе нешта зрабіць тут.

**— На ваш погляд, ці не пагражае краіне масавы «сыход» адораных маладых кампазітараў у замежжа?**

— На прыкладзе кампазітарскага асяроддзя ў Расіі або Украіне бачна: многія з тых, хто нешта з сябе ўяўляе, з'язджаюць на Захад. Але не ўсе. Тыя, хто знаходзіць сваю нішу дома, звычайна застаюцца. Спадзяюся, такія магчымасці ёсць або ў хуткім часе з'явяцца і ў Беларусі. Прынамсі, нягледзячы на ўсе складанасці, пэўная аўдыторыя ў стваральнікаў сур'ёзнай музыкі тут ёсць.

**— Ці верыце вы ў перспектывы беларускай музыкі? Ці можна спадзявацца, што яна ва ўсю моц прагучыць у свеце?**

— У нас вельмі добрая класічная школа, дзе маладыя кампазітары могуць атрымаць яскравую базавую адукацыю. Мне хацелася б, каб Беларусь стала актыўным удзельнікам сучасных музычных працэсаў, дзякуючы чаму нашу музыку можна было б пачуць у розных кутках свету. Толькі тады яна будзе цікавай і запатрабаванай за межамі Беларусі.

**Наталля КАНСТАНЦІНАВА**

**ЛІСТАПАД — час, калі ў сталіцы атрымліваюць асалоду ад добрых фільмаў. Трыумфам кіно пачынаецца і заканчваецца Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» — адна з найбуйнейшых падзей для тутэйшых кінааматараў.**



# Свет з паперы

## Анімацыйная казка Міхаіла Тумелі

**Ва ўтульным будынку Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на вуліцы Чычэрына людзей даволі мала. Сярод гэтых апантаных мастацтвам — і Міхаіл Тумеля, які тлумачыць сваёй студэнтцы, як зрабіць так, каб намаляваны чырвоны трамвай пачаў прыгожа і рытмічна рухацца. Для мяне, як для чалавека, які да майстэрства мультыплікацыі не набліжаны, тое, што трамвай паехаў надзвычай натуральна, было сапраўдным цудам. Але, здаецца, для Міхаіла Тумелі гэта самае простае, што можна ў анімацыі зрабіць.**



*Кадр з фільма «Выцінанка-выразанка» (рэж. М. Тумеля).*

### РОДНЫЯ ВОБРАЗЫ

Дарэчы, момант з трамваем — гэта адна з частак курсавой работы студэнтаў Акадэміі мастацтваў. А ідэю падказаў беларускі пісьменнік Міхаіл Валодзін, вядомы сваімі «Мінскімі гісторыйкамі». Міхаіл Тумеля вырашыў адгукнуцца на прапанову і перавесці гісторыі ў анімацыю: «Тут трэба быць максімальна канкрэтным, не даваць волю фантазіі, карыстацца калектыўным розумам — браць чужое і дзяліцца сваім. Павінна атрымацца штосьці кшталту свету-канструктара, які распавядзе пра наш горад».

Кіно Міхаіла Тумелі палюбіў глядач. Майстэрствам творцы захапляюцца і ў Беларусі, і ў іншых краінах, дзе яго вядомая «Выцінанка-выразанка» атрымала не толькі ўдзячную публіку, але і высокія ўзнагароды. Казачны, карункавы свет, створаны рэжысёрам, не пакідае абыякавым нават самага патрабавальнага гледача, нездарма Міхаіл Тумеля так доўга яго шукаў: «Я чытаў даследаванні, што выцінанка з'явілася ў славянскіх краінах дзякуючы яўрэям. І нейкім чынам яна пранікла і да нас, атрымала іншыя рысы — у чымсьці архаічныя, у чымсьці рэлігійныя. Але пра ўсё гэта я даведаўся пасля. Я прыйшоў да Уладзіміра Цэслера, каб параіцца, як рабіць запланаваныя фільмы — хацеў зняць ролікі з беларускімі прымаўкамі, каб людзі ўзгадалі гэтыя неверагодныя рэчы. Узнікла пытанне, у якой тэхніцы рабіць кіно. Менавіта Цэслер і падказаў мне звязацца з майстрам, які робіць выцінанкі. Калі я іх убачыў, узрушыўся: гэта было тое, што трэба!».

Менавіта так Тумеля пазнаёміўся з вядомым майстрам выцінанкі — Вячаславам Дубінкам. Пасля гэтай сустрэчы пачаў здымаць. Адразу былі «Прымаўкі», пасля — «Выцінанка-выразанка»: «Я бачыў, як Вячаслаў робіць свае выцінанкі: вялізнымі, а не манікюрнымі, нажніцамі выразае ўзоры. Ён сапраўды адрадзіў тое мастацтва 70-х, на якое ўсе забыліся. Я працаваў і з пяском, і з пластылінам, і з малюнкам. Але не нагуляўся з выцінанкай».

«Выцінанка» стала візітоўкай рэжысёра, а самі ўзоры, паказаныя ў фільме, — беларускім вобразам, пазнавальным і ўнікальным: «У адным інтэрв'ю польскага мысляра я пачуў словы: "Інтэлігент павінен сведчыць пра свой народ". Магчыма, я таксама сведчыў, бо выразаў той свет, якога не было і не можа быць. Але ў гэтым і сіла, і радасць мастацтва — можна зрабіць тое, чаго няма, але людзі будуць ведаць, што гэта беларус, менавіта так ён сябе паводзіць. У гэтым сэнсе анімацыя — канцэнтраваны склад, бо дае разуменне праз тыя знакі, якія акаляюць нас, хоць і створаная ўсяго з кавалачкаў паперы».



*Кадр з фільма «Выцінанка-выразанка» (рэж. М. Тумеля).*

### МАЛАДЫ ПАТЭНЦЫЯЛ

Ужо 4 гады Тумеля свайго кіно не стварае, працуе са студэнтамі — выкладае ў Беларусі і Расіі. І наталяецца рэжысёр тым, што яго вучні запускаюць уласныя праекты — працягваюць справу настаўніка: «Мінулы выпуск рэалізаваўся ў камерцыйнай анімацыі, але некаторыя ствараюць і сваё кіно. Напрыклад, Руслан Сянкевіч паспеў зрабіць на "Саюзмультфільме" гісторыю пра пластылінавых дыназаўрыкаў і даслаў на "Лістапад" стужку "Якія сны сніць мядзведзь". Рома Бурмакоў паўдзельнічаў у апошнім выпуску "Аповесці мінулых гадоў-7", там наогул 4 студэнты прагучалі, і, на мой погляд, атрымалася арыгінальнае і свежае кіно: тэмы, якія ўжо сталі кананічнымі за ўсе выпускі фільма, тут раскрыліся па-іншаму».

І гэта сапраўды выдатна, бо анімацыйная мова сёння не заўсёды адпавядае тэрміну «сучасны». Шукаць новае гучанне наважваюцца не ўсе, але тыя, хто на такую рызыку ідзе, перамагаюць сваімі фільмамі: «Я прачытаў у адным з інтэрв'ю, што часам глядзіш анімацыйную стужку маладога рэжысёра, а адчуванне такое, што яна зроблена ў 50 — 60-я. Я заўважаю па студэнцкіх работах, што мастацтва анімацыйнай ігры і адухаўленне адыходзіць на другі план. На першым месцы — сцэнарый і дызайн. Варта ўзгадаць амерыканскі серыял *«South Park»*, які нагадвае сценгазету, якая ажыла. І зараз такой анімацыі становіцца больш, а адухаўленне герояў, якому я калісьці вучыўся, сваё аджывае — мы быццам вяртаемся да дыяфільмаў».

Не так даўно на факультэце экранных мастацтваў узнавілі падрыхтоўку рэжысёраў-аніматараў. На курс набіраюць раз на 5 гадоў, і зараз Міхаіл Тумеля выкладае ў другога набору спецыяльнасці: «Мая задача ў акадэміі — не даваць дарэмных ілюзій наконт бліскучага будучага рэжысёраў анімацыі. Рэчы кшталту славы прыйдуць толькі пасля асэнсаванай працы. Таму я шмат увагі надаю вывучэнню мультыплікату. Мне падаецца, у сусветнай сістэме адукацыі ёсць перакос: у рэжысёры-аніматары раней траплялі толькі пасля таго, як авалодаюць майстэрствам. Зараз вучыцца рэжысуры ідуць пасля школы — не тое, што без досведу прафесійнага, а нават без досведу чалавечага. Але гэта не толькі беларуская праблема — такое адбываецца паўсюль».

### ЗНАК ЯКАСЦІ

Анімацыя павінна быць канкрэтнай — яна не бывае вуснай, зрэшты, як і кіно наогул. Вынік працы рэжысёра бачны выключна на экране. Менавіта таму Міхаіл Тумеля кажа, што як нельга лепш апісвае яго працу слова «перфекцыянізм». Вынікі гэтага перфекцыянізму бачаць і замежныя эксперты: беларуская анімацыя амаль ніколі не вяртаецца з фестываляў без узнагарод. Можна сказаць, што анімацыя — свайго роду брэнд беларускага кінематографа: «Але для мяне слова "брэнд" не вельмі добрая прыкмета часу. Трэба рабіць добрыя рэчы, тады будзе і брэнд. Калі рэч зроблена не на ўзроўні, то яна брэндам і не стане. Хвалюе, што часам на брэндаванне таго ж фільма аддаецца больш часу, чым на саму яго сутнасць».

Анімацыя, сутнасць якой непакоіць рэжысёра больш, чым яе рэкламаванне, усё ж ёсць. На фестывалях яе хапае, у жыцці фестывальным менавіта на такое — новае і незвычайнае — увагу звяртаюць і адзначаюць, ацэньваюць рэжысёрскія пошукі. Па іх жа мяркуюць і пра краіну. Хоць Міхаіл Тумеля і не ўпэўнены, што брэнд анімацыі можа дадаць славы: «Канечне, вядомыя рэчы сведчаць пра краіну. Гэта тычыцца і культурных з'яў, фестываляў. Але якраз на фестывалях ніхто не звяртае ўвагі на брэнд — такія імперыі, як *Disney, Dreamworks*, у падобных мерапрыемствах наогул не ўдзельнічаюць, але яны папулярныя. На мой погляд, тую анімацыю, якая робіцца ў нас ці ў найбліжэйшым замежжы, цяжка назваць брэндам. Гэта нешта больш тонкае».

І хоць слова «брэнд» Міхаілу Тумелю не вельмі падабаецца, ён адзначае, што, напрыклад, эстонскую анімацыю можна назваць брэндам — ёсць эстонская школа анімацыі: «Гэта эксперыментальныя, пошукавыя фільмы, якія не абавязаны выступаць у якасці забавы для школьнікаў, а "прымушаюць" думаць пра мастацтва, у тым ліку і пра мастацтва анімацыі. Беларускія мультыплікатары таксама пра гэта кажуць: анімацыя — не заўсёды забава, не заўсёды яна простая для ўспрымання. Яе шмат не паглядзіш, бо гэта канцэнтрат: рэжысёр ва ўмоўныя 10 хвілін фільма "ўпырсквае" 10 месяцаў свайго жыцця, і гэта нельга супаставіць нават з 3 серыяламі, зробленымі за той жа час».

### ВЫДУМАНЫЯ ЎЧЫНКІ

Але нягледзячы на гэтую каштоўнасць канцэнтраванага кіно, да яго не заўсёды ставіліся паважліва: «Я не памятаю эпохі, калі вуліцы сцішваліся, а людзі беглі глядзець беларускія мультфільмы. Напэўна, не ўсе і ведаюць, якія ў нас ёсць анімацыйныя стужкі. Яшчэ ў савецкія часы заклалася традыцыя пісаць у праграме тэлеперадач "Мультфільм". Чый і які — няважна. Гэта заўсёды лічылася бясплатным атракцыёнам. Вось такое да анімацыі і склалася стаўленне».

Зараз гледача анімацыяй распесцілі. Калі раней прэм'еры даводзілася чакаць і год, то зараз новы мультфільм ад *Disney* выходзіць амаль кожны месяц: «Публіка ў гэтым плане, на мой погляд, перакормленая. А аўтарскую анімацыю амаль немагчыма ўбачыць, і гэта тычыцца не толькі Беларусі — у Францыі, Штатах тое ж самае».

Усё ж аўтарскую анімацыю паглядзець можна — было б жаданне. На «Лістападзе» паказвалі беларускія мультфільмы, у інтэрнэце яны таксама ёсць. Неверагодныя гісторыі Алены Пяткевіч, Ігара Волчака, Аляксандра Ленкіна даволі лёгка знайсці ў сусветным павуцінні. Цяжэй будзе з тым, што знята нядаўна, але абавязковае для прагляду: «З анімацыі ў гэтым годзе я б вылучыў працу 17-гадовага Івана Гапіенкі "Дзеці будучага спяць", якая сёлета перамагла на *Bulbamovie*. Для такога маладога ўзросту рэжысёр сапраўды добра авалодаў тэхнікай, і я бачу надзею і здзяйсненне года ў гэтай стужцы».

Аўтарская анімацыя каштоўная тым, што ў ёй важнае разуменне ўбачанага: чаму героі робяць менавіта гэтыя выдуманыя ўчынкі, што можна вынесці з мультфільма: «Я за асэнсаванне. Памятаю, як у дзяцінстве глядзеў мульфільмы для дарослых (паказвалі неверагодныя стужкі Хітрука "Выспа", "Фільм! Фільм! Фільм!"), я адчуваў рытм і здзіўляўся, як усё зроблена, артымліваў задавальненне. Менавіта гэта і прывяло мяне калісьці ў анімацыю, я палюбіў гэтае кіно».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

**СНЕЖАНЬ — час, калі мы спадзяёмся на лепшае, рыхтуемся да Новага года і Калядаў, збіраемся ўсёй сям'ёй за сталом, упрыгожваем ёлку каляровымі лямпачкамі, жадаем адно аднаму шчасця і здароўя ў наступным годзе.**

# Жыццё на ёлцы:

## гісторыя XX стагоддзя ў ёлачных упрыгожваннях

**Адчуванне Калядаў і Новага года ў хаце пачынаецца з красуні ёлкі. Традыцыя ўпрыгожваць святочнае дрэва пачалася яшчэ ў сярэдневяковай Германіі, распаўсюдзілася амаль па ўсім свеце і дагэтуль не страчвае папулярнасці. Мяняліся эпохі, падзеі, людзі, і ўсе змены адбіліся… на звычайных ёлачных цацках! Выстаўка «Стары куфар і прыгажуня ёлка» запрашае маленькіх і дарослых гледачоў далучыцца да гісторыі некалі вялікай краіны праз святочны ёлачны ўбор.**



Фота Кастуся Дробава.

*Тэма асваення космасу была настолькі актуальнай, што спадарожнікі ды касманаўты сустракаліся нават сярод ёлачных цацак.*

Пляцоўкай для выстаўкі навагодніх рэтрацацак стаў Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. У прыватнай калекцыі Наталлі Кавалёвай сабраны экзэмпляры з розных перыядаў. Большасць з іх савецкія, але ёсць вітрына з цацкамі, вырабленымі яшчэ да рэвалюцыі. Каб было зручней знаёміцца з экспанатамі, супрацоўнікі музея размеркавалі ўпрыгожванні па перыядах і тэматыцы. У кожным з камплектаў цацкі выкананы ў розных тэхніках і з розных матэрыялаў — ваты, бісеру, сцяклярусу, паперы, кардону і нават металічнай стружкі. Прадстаўленыя як масавая вытворчасць савецкіх часоў, так і адзінкавыя вырабы.

Наталля Кавалёва з Віцебска пачала збіраць старыя ёлачныя цацкі толькі ў 2009 годзе, але цяпер у яе калекцыі ўжо каля 3 тысяч экспанатаў. Па словах Кавалёвай, захапленне пачалося з простага жадання вярнуць тыя цацкі, якія калісьці належалі яе сям'і. Потым захапленне выйшла за межы звычайнага збіральніцтва



*Сталіну спадабаўся фільм «Цырк» з Любоўю Арловай, і адразу ў продажы з'явіліся ватныя і шкляныя героі цыркa.*

і ператварылася ў сапраўдную навуковую працу. Наталля Кавалёва навучылася рэстаўрыраваць асобнікі, што патрапілі ў дрэнным стане, пачала даследаваць: да якога перыяду належаць, якую назву маюць. На базе яе калекцыі летась была зладжана выстаўка ў Віцебску. Зараз больш як 800 экспанатаў прыехалі ў мінскі Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры.

У ёлачных цацках увасобілася і штодзённае жыццё (хатнія жывёлы, посуд, гародніна, лямпы), і чароўныя казкі («Прыгоды Чыпаліна», «Рэпка», «Чырвоны Капялюшык», «Уладарка Меднай гары», «Лямпа Аладына»), і святочныя падзеі (вясёлыя цыркачы і незвычайныя звяры, шчаслівыя дзеці, што едуць на санках з гары). Дзяржаўныя і палітычныя падзеі таксама часта траплялі ў тэматычнае кола ёлачных цацак. Напрыканцы 30-х з'явіўся шкляны шар з выявамі Сталіна, Леніна, Маркса і Энгельса, але хутка ён з крамаў знік: «вешаць» правадыроў народа не дазвалялася нават на святочную ёлку. Вітрына з лялькамі на тэму «дружбы народаў» паказвае сцэнкі з жыцця прадстаўнікоў розных народаў Савецкага Саюза. Тэматычны стэнд «Асваенне космасу» належыць да тых часоў, калі Юрый Гагарын зрабіў каласальны прарыў у гісторыі свету і паляцеў на арбіту Зямлі. Камплекты шкляных цацак складаліся са спадарожнікаў, зорак, планет, Зямлі, Месяца, Сонца, фігурак касманаўтаў і маленькіх касмічных караблёў. Патрапілі пад увагу вытворцаў і святлафоры. Ведаеце, што да 1949 года чырвонае святло было ўнізе, а не над астатнімі колерамі, як зараз? Дзякуючы ёлачным цацкам можна прасачыць трансфармацыю святлафора на ўласныя вочы. А яшчэ пабачыць ліхтар абходчыка чыгункі, старыя мадэлі тэлефонаў, самавары і газавыя лямпы…

Пазнавальнасць выстаўкі не толькі ў тым, што ўяўляюць з сябе цацкі, але і ў тым, як яны зроблены. Дрот, металічная стружка, лямпачкі, што перэгарэлі, — усё гэта належыць цяжкім ваенным гадам, калі майстраваць навагоднія цацкі не было з чаго. Дзіўна, але ёлку ўпрыгожвалі нават у такія складаныя часы, у неспрыяльных умовах! Нягледзячы на выпрабаванні, людзі хацелі свята: лепш за словы пра гэта сведчаць кветкі, сплеценыя з дроту, распісаныя лямпачкі замест шароў.

Акрамя спецыяльных стэндаў, частка калекцыі прадстаўлена там, дзе і павінна быць, — на ёлцы. Святочнае дрэва на выстаўцы — кампіляцыя розных эпох, стыляў, матэрыялаў. Пад вялікай чырвонай зоркай — сімвалам СССР і навагодняга свята — нешта роднае знойдуць усе наведвальнікі выстаўкі, бо асобнікі савецкіх рэтрацацак можна адшукаць амаль у кожнай беларускай сям'і.

— Выстаўка цікавая не толькі дзецям, але і дарослым, бо яна забяспечвае пераемнасць традыцый, — мяркуе Ганна Грыбко, вядучы навуковы супрацоўнік музея. — Бабулі і дзядулі, мамы і таты згадаюць дзяцінства і атрымаюць добрую нагоду для таго, каб падзяліцца з дзецьмі ўспамінамі пра Новы год: як святкавалі, як упрыгожвалі ёлку, як выглядалі цацкі іх маленства.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



*Персанажы казкі «Рэпка» ў сучасным наборы ёлачных цацак.*

# КАБ ЦУД АДБЫЎСЯ

**Віншуем усіх адданых чытачоў «ЛіМа» з Новым годам і дзякуем за падтрымку нашай газеты, якая злучае з тымі асобамі, што працуюць на творчую славу Беларусі. Няхай іх шчырыя віншаванні дададуць святочнага настрою ў вашы дамы і натхняць на новыя справы.**

**Алена Стэльмах, першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Няхай галасісты Певень стане прыкладам увішнасці і працалюбства. Ён, як вядома, рана ўстае, дзякуючы чаму і справы ў яго ладзяцца, і плён ён мае вялікі. Таму і ўсім творцам, чытачам жадаю быць гэткімі ж руплівымі, настойлівымі, па зярнятку збіраць творчыя здабыткі, каб абуджаць пранікнёным словам сэрцы неабыякавых людзей.

**Іван Саверчанка, дырэктар Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы, доктар філалагічных навук, член Прэзідыума СПБ:**

— Паважаныя чытачы газеты «Літаратура і мастацтва», жадаю вам знайсці сапраўднае каханне, якое неабходнае кожнаму. Таксама жадаю, каб у наступным годзе вы знайшлі для сябе шмат цікавых кніг — арыгінальных раманаў, захапляльных апавяданняў, добрых вершаў. І каб кожны чытач палепшыў свой дабрабыт.

**Мікола Мятліцкі, паэт, перакладчык:**

— Сардэчна вітаю чытачоў «ЛіМа», жадаю, каб у новым 2017 годзе спраўдзіліся самыя важныя мары, каб у кожнай беларускай хаце былі мір і згода. Жадаю, каб мы назіралі больш дасягненняў беларускай літаратуры і сустракаліся з імі на старонках нашай любімай газеты, якая за доўгія часы існавання не стамілася быць лепшым у краіне літаратурным выданнем. Як пастаянны падпісчык і чытач «ЛіМа», жадаю ўсім натхняцца новымі творамі і атрымліваць асалоду ад чытання.

**Рыгор Сітніца, старшыня Беларускага саюза мастакоў:**

— Жадаю чытачам «ЛіМа» заставацца не проста чытачамі, а носьбітамі беларускай ідэі, носьбітамі роднай культуры і традыцый, якія зберaглі нашы бацькі. Хай ніколі не губляецца адчуванне любові да блізкіх, да мовы і радзімы. Больш беларускасці ў кожны дом.

**Надзея Кучар, оперная спявачка:**

— Жадаю ўсім у новым годзе больш марыць. Дакладна ведаю, што няма нічога немагчымага ў нашым свеце, варта толькі па-сапраўднаму пажадаць! Але не спадзявацца, што жаданні ажыццявіць хтосьці, а самім неадкладна дзейнічаць! І хай у вашай хаце заўсёды валадарыць дабро, любоў і, вядома, музыка.

**Павел Харланчук, акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы:**

— Літаратура і мастацтва — два словы, якімі я ганаруся, якія мне блізкія. Чытачам газеты я хачу сказаць, што вы выконваеце важную, нават зайздросную справу ў наш час. Сёння людзі не так многа чытаюць, а вы захоўваеце традыцыю, зберагаеце літаратурную спадчыну. Неаднойчы літаратура выратоўвала чалавека, неаднойчы дапамагала яму вынаходзіць шляхі дабрыні. Я жадаю, каб чытанне для вас не спынялася і было захапляльным. Таксама хачу пажадаць, каб 2017 год быў цікавым. Нават калі і цяжкім, хай будзе цікава выходзіць з гэтых цяжкасцей. Усяго найлепшага, любіце мову, любіце літаратуру і мастацтва.

**Алена Турава, рэжысёр анімацыйнага і ігравога кіно:**

— З надыходзячым Новым годам, дарагія сябры! Гэтае свята — як часцінка нашага дзяцінства: мы па-ранейшаму верым у цуд у канцы снежня. Дык пажадаем, каб цуд нарэшце адбыўся — самае добрае і самае светлае! Хай забудуцца трывогі і крыўды, хай спраўдзяцца мары і надзеі і хай будуць здаровыя і шчаслівыя блізкія людзі! Шчаслівага Новага года!

# УСЛЕД ЗА КАЗКАЙ



*Аляксандр Дзямідаў побач са сваім творам.*

Перад самымі чароўнымі навагоднімі святамі людзі пачынаюць верыць у цуды, адчуваць сябе ў святочнай казцы і чакаць, што ўсе мары спраўдзяцца. Мастак Аляксандр Дзямідаў казачны свет захоўвае ўнутры. Так і стварае творы.

**— Ваша творчасць асацыюецца са святам, казкай. Чаму вы абралі менавіта такі стыль у творчасці і досыць часта ў працах паўтараеце персанажаў?**

— Увесь час спрабую рабіць інакш, у мяне і атрымліваецца інакш! Аднак прыходзяць знаёмыя і пытаюцца: «Саша, чаму ў цябе ўсе хлопчыкі і дзяўчынкі падобныя да брата і сястры?». Але калі ўспомніць мае працы, напрыклад, у 2002 годзе, там прадстаўлена адна трактоўка, а тое, як я раблю цяпер, — іншая, нават стылістычна. Я мяняюся як чалавек, мяняюцца жаданні і бачанне як мастака. З'яўляюцца перавагі нават каляровыя. Раней для мяне было нармальным напісаць бірузовы твар. Калі працаваў над творамі на Кіпры, пасля прывёз іх і ўбачыў, што твары чырвоныя, быў здзіўлены: усё да такой ступені кантрасна, нават занадта. Калі рабіў выстаўку ў Літве або ў Таліне, мая творчасць не была ўспрынятая. Таму, калі кажуць, што мае творы шмат у чым адны і тыя ж, я не згодны. Як агульнае, зборнае, мой пасыл такі: чалавеку павінна быць добра з работай, гэта для мяне прынцыпова, павінна быць узаемадзеянне паміж творам і гледачом. Увогуле гэта зборны вобраз дабра: добрыя людзі, кветкі, звяры, якія не зусім звяры. Мае каты не зусім каты, рыбы ў мяне з чалавечымі вачыма, як працяг, як цень чалавека, абярэг. Мяне заўсёды чапляла, калі ідзе дзіця і побач з ім такога ж памеру сабака: незразумела нават, хто больш дарослы: сабака-шчанюк альбо малы. Такія жыццёвыя сюжэты і фарміруюць мае вобразы. Сямнаццатага студзеня я адкрываю выстаўку ў Віцебску, дзе будзе прадстаўлена рэтраспектыва маёй творчасці: працы з 2002 па 2017 год. Калі паглядзець усе творы за пятнаццаць гадоў, можна ўбачыць розніцу: як рабіў раней і як цяпер. Серыі работ розныя па колеры і па тэматыцы. Яны звязаны толькі тым, што я не раблю агрэсіўнага мастацтва. Разумееце, дабру не трэба нічога даказваць, яно само па сабе, а агрэсія ў тым і заключаецца, што яе даказваюць. Як правіла, гледачы запамінаюць адмоўнага героя. Менавіта таму з агрэсіўным мастацтвам прасцей атрымаць прызнанне, яно прадугледжвае неверагодны эфект. Але мне няпроста ўспрымаць такія тэмы.

**— Калі і як прыйшлі да добрага мастацтва?**

— У дзяцінстве я ляпіў з пластыліну, заляпіў усе палавікі маці. Гэта было наша хатняе бедства. Пасля на змену прыйшлі дрот, дрэва, рабіў чалавечкаў. Мама, якая бачыла цягу ствараць, аддала мяне ў студыю. Бліскучымі талентамі я не адрозніваўся, быў звычайным хлопчыкам. У той перыяд я назапашваў жаданне. Былі здольнасці, але я рос абсалютна няўседлівым. Калі дома мог доўга над чымсьці сядзець, то ўжо ў студыі гэта рассейвалася. Наогул усё, што тычылася адукацыі, давалася мне з вялікай цяжкасцю. Гэта працягвалася вельмі доўга. Таму «дзякуй» маме за яе высілкі: яна з хітрыкамі, з тлумачэннямі спрабавала мяне ўтрымаць.

Людзі выбіраюць сабе героя. Для мяне гэта быў сусед па лецішчы. Ён рэзаў па дрэве, рабіў сам мэблю, займаўся садам, у яго быў сабака, якога ён любіў, ён быў выдатны апавядальнік. Гэта ўсё чапляла. Дзякуючы яму ўва мне адбылася метамарфоза.

Калі я вучыўся на другім курсе, ён мне падсунуў кніжку пра мардоўскага мастака Сцяпана Эрзю, пасля маё стаўленне да жыцця змянілася, я пачаў захапляцца іншымі кнігамі.

Наогул, я паступіў ва ўніверсітэт на «мастацкае афармленне». Але любові да фармальна кампазіцыі не было, хоць веды давалі выдатныя, я да гэтай пары імі карыстаюся. У 1989 годзе паступіў у інстытут, у тым жа годзе пачаў выстаўляцца на моладзевых выстаўках. У 1995 годзе я скончыў інстытут, літаральна ў верасні гэтага ж года адправіўся ў Брусель на выстаўку, дзе былі прадстаўлены мае творы. Там чакалі Чынгіза Айтматава, і я вельмі засмуціўся, што ён не прыйшоў. У мяне была праца «Белы параход», я хацеў з пісьменнікам каля яе сфатаграфавацца.

**— Ці абапіраліся калі-небудзь на творчасць іншых мастакоў?**

— Канечне. У кожны перыяд творчасці былі свае фаварыты. Аднак па-ранейшаму мне вельмі па душы мастакі, якія працавалі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, шмат у чым я прытрымліваюся традыцый гэтага перыяду мастацтва, мне падабаецца і стаўленне гэтых мастакоў да творчасці, і сама форма мастацтва, яна для мяне абсалютна арганічная. Вельмі люблю постімпрэсіяністаў. Наогул, вельмі важна глядзець на арыгінальныя карціны, таму што часам пасля рэпрадукцыі адчуваеш вялікае расчараванне.



*«Вяртанне дадому», 2016 г.*

**— Аляксандр, вы залежыце ад меркавання гледача або больш абапіраецеся на ўласнае «я»?**

— З аднаго боку, не, з другога — залежу. Любы кірунак мастацтва заўсёды залежаў ад погляду, успрымання публікі. А апроч гледача мастака рухае самалюбства, дзякуючы якому ён і рэалізоўваецца. Гэта як чалавеку з маленькага горада, які прыехаў у мегаполіс: трэба даказваць, што ён можа. Закон жыцця. Маё мастацтва далёка не ўсім падабаецца, і дзякуй богу. Было б горш, калі б падабалася ўсім. Чым лепш мастацтва, тым больш крытыкі. У цэлым кошт поспеху — гэта крытыка. Але, тым не менш, не варта да яе вельмі трапятліва ставіцца, няхай тады людзі пакажуць, што могуць зрабіць лепш.

**— Свае творы выстаўляеце на продаж?**

— Так, гэтым і жыву. Аднак ёсць невялікая калекцыя работ, якую я пакідаю. Пакідаю па той прычыне, што так, як працаваў у 1998 годзе, цяпер не працую. Не зраблю больш такіх работ: як чалавек я зараз іншы. Тут справа і ў светапоглядзе, і ў тэхніцы, тэмы цяпер выбіраю новыя. Часам, вядома, вяртаюся да старых тэм, але па-іншаму раблю асоб, неба, краявіды. Часам мне кажуць, што мае работы сумныя, што казка — гэта знешняя форма, а за ёй — думка невясёлая мастака. Бываюць людзі, якім падабаецца мая тэхніка, але не падабаецца, як я пішу асобы. Але і тут глядач у нечым мае рацыю, бо пра густы не спрачаюцца.

**— Вашы творы вельмі метафарычныя. Калі вы ў іх закладваеце ідэю, вам важна, каб глядач яе разгадаў, зразумеў?**

— Мне прынцыпова, каб я змог раскрыць яе ў працы. Я выкарыстоўваю ўражанне, усё астатняе — мая выдумка. Глядач усё роўна бачыць не тое, што я паказваю, і гэта нармальна, бо погляд свежы. Я напісаў карціну, далей яна жыве асобным жыццём. У кожнай рабоце ёсць лёс: яе характарызуе і ідэя, і гісторыя стварэння, і нават яе месца сярод іншых работ. Напрыклад, у мяне ёсць добрая работа, але чамусьці на кожнай выстаўцы яе спрабуюць «схаваць» у куце.

**— Лічыце сябе паспяховым мастаком?**

— Як творчы чалавек, я рэалізаваўся. Мне, вядома ж, хацелася б большага. Але казаць, што я не дасягнуў таго, чаго хацелася б, не магу. Мяне многія гледачы памятаюць па работах, якія я выставіў на першай персанальнай выстаўцы ў 1994 годзе. Тады ж не было ніякай рэкламы. А цяпер ведаю, што мае некаторыя работы капіруюць. Даходзіла да смешнага: аднойчы з майго каталога была ўзята тытульная праца і на яе замоўлена копія. Людзі, якія мяне ведаюць, заказваюць копіі ў іншых мастакоў, таму што гэта танней. Гэта мяне не радуе: не ствараюць якасныя творы, а проста перадаюць пасыл.

**— Цяпер многія творцы, асабліва маладыя, з'язджаюць з краіны, з-за чаго было прапанавана крыху адысці ад звыклых крытэрыяў адукацыі. Як лічыце, мастаку абавязкова атрымліваць адпаведную адукацыю?**

— Мастаку адукацыя абавязковая. Пытанне толькі ў тым, якая адукацыя і якая яе сістэма. Я лічу, што ўсё павінна крыху змяніцца: раней, напрыклад, хадзілі да майстра вучні. Мне адукацыя сапраўды дапамагае, асабліва веды ад некаторых выкладчыкаў. Многія мастакі з'язджаюць жа не за славай, а проста мяняюць прафесію. На жаль, у нашай краіне не выхоўваюцца важныя традыцыі, якія ёсць ва ўсім свеце. У нас няма традыцыі мець карціну дома, не кажучы ўжо пра скульптуры. Сёння канстатуюць, што ў нас штосьці з'яўляецца, але ў працэнтных адносінах — гэта нішто. У нас вельмі шмат таленавітых мастакоў, беларуская зямля сапраўды нараджае таленты, але часам яны губляюцца з-за сістэмных фактараў. Любая традыцыя для мастацтва вельмі важная. А ў нашым грамадстве нават дарыць карціны на святы не прынята.

**— Існуе меркаванне, што чалавеку любой сферы мастацтва неабходна натхненне. У чым сакрэт вашага натхнення?**

— Я працую кожны дзень. Бываюць дні, калі робіш падрыхтоўчую працу, напрыклад, нацягваеш палотны. Гэта доўгі час. Але, як кажа Уладзімір Савіч, нават калі ты пачысціў палітру, то ўжо дакрануўся да мастацтва. Праца і ёсць натхненне. Працаваць трэба пастаянна, таму што навык сыходзіць. Гэта здаецца, што заўтра, праз месяц зробіш, але ўнутраны палёт губляецца. Мастацтва як спорт: трэба пастаянна трэніравацца, інакш усё дарэмна, пасля ні цягліцавая памяць, ні ідэя не дапамогуць.

**Вікторыя АСКЕРА**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 29.12.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1601.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4828

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



ISSN 0024-4686